ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ
ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№25
(2531)

19 чэрвеня 1997 г.
Выдаецца з 1955 г.
Цана 1 000 рублёў.

УЗАЕМАДАЧЫНЕННІ

## НЕ ТРЭБА ВЫНАХОДЗІЦЬ УЛАСНЫ ВЕЛАСІПЕД, КАЛІ МОЖНА КУПІЦЬ У СУСЕДА



**Сярод апошніх знешнепалітычных крокаў кіраўніцтва Беларусі асабліва вылучаюцца падпісанне Статута Саюза Беларусі і Расіі і сустрэча Прэзідэнтаў Аляксандра Лукашэнкі і Леаніда Кучмы ў Кіеве. І калі першае было прадвызначана ўсім досыць доўгім рухам папярэдніх падзей, то другое — працэс даволі новы, які яшчэ толькі набірае сілу і хуткасць. Пра характар і асаблівасці цяперашніх узаемаадносін паміж Украінай і Беларуссю наша гутарка з Уладзімірам ЖЭЛІБАМ, Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Украіны ў Рэспубліцы Беларусь.**

***— Уладзімір Іванавіч, мяркую, Беларусь павінна ў чымсьці нагадваць Украіну!***

— Канешне. Увогуле Беларусь для мяне вельмі блізкі край. Я ж сам родам з Палесся, з Чарнігаўшчыны. Ды і ў вашай краіне працую амаль пяць год. Тут практычна ўсё сваё, зразумелае: і лад жыцця, і традыцыі...

***— ...і праблемы таксама.***

— Няма чаго хаваць — і праблемы таксама.

***— Уладзімір Іванавіч, на працягу пяці гадоў вы мелі магчымасць не толькі назіраць, але і непасрэдна ўдзельнічаць у працэсе фарміравання украінска-беларускіх узаемаадносін у постперабудовычны перыяд...***

— Мы ўжо з вамі адзначалі, што Украіна і Беларусь маюць шмат агульнага. Яшчэ 10—15 год назад людзі былога СССР нават і падумаць не маглі, што будуць жыць у розных краінах. Духоўная еднасць захавалася ў душах многіх з нас і дасюль. І мне здаецца, такія пары́вы трэба не толькі берагчы, але і ўсяляк падтрымліваць.

Натуральна, у першыя гады, калі Украіна і Беларусь абвясцілі незалежнасць, асноўная ўвага надавалася ўнутраным праблемам будаўніцтва ўласнай дзяржаўнасці ўвогуле. Галоўным чынам, з-за гэтага нашы сувязі ў той перыяд трохі зменшыліся, асабліва эканамічныя. Але на агульначалавечым, гуманітарным узроўні яны ніколі не перарываліся. З поспехам прайшлі Дні культуры Украіны на Беларусі і Беларусі на Украіне. Працягвалі цеснае супрацоўніцтва нашы Акадэміі навук. Дарэчы, і зараз, нягледзячы на складанасці, мы ажыццяўляем агульныя навуковыя праграмы. Па-іншаму ж і быць не можа! На Украіне жыве 440 тысяч беларусаў. На Беларусі — 300 тысяч украінцаў. Гэта па статыстыцы. А палічыце сваяцкія сувязі... Дарэчы, і ў мяне яны таксама ёсць. Усё пераплялося так, што і пры вялікім жаданні не перарубіш.

Але пэўны спад, канешне, назіраўся. Таму падпісанне ў 1995-м Дагавора аб дружбе, добрасуседстве і супрацоўніцтве шчыра віталася з абодвух бакоў. Лагічным працягам распачатага працэсу сталі сустрэчы Прэзідэнтаў Украіны і Беларусі. Як вынік ужо можна казаць пра зрухі ў аднаўленні эканамічных сувязяў, што пацвярджаецца лічбамі: за мінулы год тавараабарот паміж Украінай і Беларуссю склаў у пераліку на долары ЗША амаль 1 мільярд 400 мільёнаў. Як і раней, традыцыйна Украіна ў тавараабароце Беларусі займае другое месца — пасля Расіі.

***— А чаму дагавор падпісаны толькі ў 1995-м?***

— Магу запэўніць, тут няма нічога "падазронага". Дагэтуль меў сілу адпаведны папярэдні дакумент, падпісаны ў 1990-м годзе. Але з улікам новых рэалій патрабавалася яго расшырыць, удакладніць некаторыя палажэнні. Што і было зроблена.

Вельмі паказальнае пагадненне аб дзяржаўнай мяжы. Гэта першы такі дакумент паміж краінамі СНД. Пры яго падрыхтоўцы рабілася ўсё магчымае, каб мяжа не раз'ядноўвала людзей, каб існаваў цывілізаваны парадак і кантроль. Самі ведаеце, колькі зараз рознай кантрабанды, нелегальных мігрантаў! Трэба берагчы і нашы дзяржавы, і нашых людзей.

***— Такім чынам, пры абмеркаванні рысы мяжы ніякіх праблем не паўставала!***

— Абсалютна ніякіх. Калі ўзнікала неабходнасць, мы абменьваліся зямельнымі ўчасткамі, але ўсё праходзіла вельмі лёгка, з поўным узаемаразуменнем. Хаця мяжа немалая — амаль 1 200 кіламетраў.

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

ЗВІНЯЦЬ ЦЫМБАЛЫ...



**Другі міжнародны і дзесяты рэспубліканскі фестываль народнай музыкі "Звіняць цымбалы і гармонік" прайшоў у Паставах. Ён сабраў лепшыя творчыя сілы народных музыкантаў з усіх абласцей Беларусі, а таксама калектывы з Польшчы і Венгрыі, Малдовы і Украіны, Літвы і Расіі.**

**НА ЗДЫМКУ: выконваюцца мелодыі беларускай зямлі.**

*(Заканчэнне фотарэпартажу на 3-й стар.).*

## ЖЫВУ І ДЫХАЮ, МОЙ КРАЙ, ТАБОЙ

*ДА 75-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Алеся САЛАЎЯ*

Сярод беларускіх пісьменнікаў замежжа сваім высокім паэтычным майстэрствам вылучаецца Алесь Салавей (Альфрэд Васільевіч Радзюк), які нарадзіўся 1 мая 1922 года ў пасёлку Крысава, каля Койданава, дзе працякае ўспаўленая ў яго вершах рака Вуса (прыток Нёмана), а памёр 22 студзеня 1978 года, на 56-м годзе жыцця, падчас купання ў акіяне, што амывае берагі далёкай Аўстраліі. Не вытрымала сэрца пакутнага расстання з радзімай, і пахаваны ён на беларускіх могілках у Мельбурне, на экзатычным кантыненце, куды закінуў яго нялёгкі эміграцкі лёс. А паміж гэтымі датамі адбылося жыццё чалавека, які назаўсёды ўвайшоў у гісторыю нашай літаратуры, прысвяціўшы свае шчымліва кранальныя вершы Бацькаўшчыне—Беларусі.

**За любоў да Цябе я пакутаваць мушу,**
**а ў разлуцы з Табой — існаваць, а ня жыць...**

**. . .**

**О мая Беларусь! Хто з табой, той шчаслівы!**

**Краю лепшага той, хто шукаў, не знайшоў, —**

пісаў паэт, на ўласным вопыце ўпэўніўшыся, як чалавеку цяжка без радзімы.

У гэтым годзе яму споўнілася б толькі 75, і ён мог бы яшчэ жыць, каб лёс быў да яго больш літасцівы.

Алесь Салавей не шукаў лепшых краёў, ён вымушаны быў пакінуць Бацькаўшчыну, якая аказалася такой жорсткай і няласкавай да многіх таленавітых сваіх сыноў. Пасталенне, узмужнелась яго паэтычнага таленту прыйшліся на 30-я—40-я — цяжкія гады сталінскіх рэпрэсій і другой сусветнай вайны. Усё спачатку пачыналася для юнака нядрэнна. Ён выхоўваўся ў добрай сям'і інтэлігентаў першага пакалення. Дзед некалі працаваў у маёнтку графа Чапскага ў Станькаве, а бацька выбіўся ў людзі, дзякуючы ўласнай настойлівасці. Скончыў сельскагаспадарчы інстытут і працаваў на розных пасадах у гарадках вакол Мінска (Натальеўск, Самахвалавічы, Вялікія Навасёлкі, Койданава).

Вершы пачаў складаць вельмі рана, і першымі добразычлівымі слухачамі былі бацькі, асабліва маці, якая шмат чытала дзецям кніжак розных паэтаў. У Койданаве Альфрэд вучыўся ў сярэдняй школе (разам з ім вучыўся і вядомы наш гісторык Мікола Ермаловіч), друкаваў свае вершы ў раённай газеце, выступаў з імі на школьных вечарах. Некалькі вершаў паслаў у "Пионерскую правду" (на рускай мове). Яны трапілі

**(Заканчэнне на 6-й стар.).**

ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

## ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

### АБ РАТЫФІКАЦЫІ ДАГАВОРА АБ САЮЗЕ БЕЛАРУСІ І РАСІІ І СТАТУТА САЮЗА БЕЛАРУСІ І РАСІІ

*Прыняты Палатай прадстаўнікоў 30 мая 1997 года.*
*Адобраны Саветам Рэспублікі 10 чэрвеня 1997 года.*

**Ратыфікаваць Дагавор аб Саюзе Беларусі і Расіі, падпісаны ў г. Маскве 2 красавіка 1997 года, і Статут Саюза Беларусі і Расіі, падпісаны ў г. Маскве 23 мая 1997 года.**

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

10 чэрвеня 1997 г., г. Мінск.
№ 41—3

## З ГЭТАЙ МІНУТЫ...

**Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка паставіў свой подпіс пад адобраным верхняй палатай парламента Законам "Аб ратыфікацыі Дагавора аб Саюзе Беларусі і Расіі і Статута Саюза Беларусі і Расіі", а таксама пад ратыфікацыйнай граматай. "З гэтай мінуты наша дзяржава знаходзіцца ў рэальным саюзе з Расіяй", — заявіў Аляксандр Лукашэнка, каменціруючы гэту падзею.**

**Цырымонія падпісання дакументаў адбылася ў Савеце Рэспублікі Нацыянальнага сходу Беларусі пасля таго, як сенатары аднагалосна ратыфікавалі падпісаныя на вышэйшым узроўні Дагавор аб Саюзе Беларусі і Расіі і Статут Саюза. Удзел у пленарным пасяджэнні верхняй палаты прынялі яе кіраўнік Павел Шыпук, Старшыня Палаты прадстаўнікоў Анатоль Малафееў, прэм'ер-міністр Сяргей Лінг, кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта Міхаіл Мясніковіч, кіраўнікі судовай галіны ўлады, іншыя афіцыйныя асобы.**

**Ларыса ЛАЗАР. БЕЛТА.**

*"Ратыфікаваны вамі Дагавор аб Саюзе Беларусі і Расіі ад 2 красавіка 1997 года і Статут Саюза Беларусі і Расіі, безумоўна, азнаменавалі новы, буйны крок на шляху яднання беларускага і расійскага народаў. Гэты крок даўся нам нялёгка, і я вам скажу, паважаныя сябры: усё можа быць, усё можа быць... Я шчыра вам (і перад журналістамі) аб гэтым кажу. Мяне асабліва насцярожваюць апошнія з боку Расіі сімптомы ў рэалізацыі ўжо дасягнутых пагадненняў. Можа, на гэтым этапе дзікага праціставння і скрытай "паддыванавай" барацьбы нам не ўдасца ў поўным аб'ёме рэалізаваць гэты Дагавор. Але запомніце: тое, што мы зрабілі, — гэта для нашых дзяцей і ўнукаў! Мы стварылі той прававы калідор, тую духоўную аснову, якую ўжо наўрад ці рызыкне разарваць які-небудзь палітык у Расіі, Беларусі або ў іншай дзяржаве, якая далучыцца да Саюза. Гэтага ніколі не адбудзецца. Урок быў настолькі ўсёабдымным і магутным, што нікому не будзе дазволена гэтага зрабіць".*

*(З выступлення Прэзідэнта Беларусі А. ЛУКАШЭНКІ на пленарным пасяджэнні сесіі Савета Рэспублікі Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь 10 чэрвеня 1997 года).*

НА СЕСІІ ПРААН

## ПРАГРАМА ДЛЯ БЕЛАРУСІ

**Выканаўчы савет Праграмы развіцця ААН (ПРААН) зацвердзіў рэспубліканскую праграму для Рэспублікі Беларусь.**

**Дакумент вызначыў стратэгію і галоўныя прыярытэты супрацоўніцтва нашай краіны з ПРААН. Памер фінансавых сродкаў на выкананне праграмы складае 5,6 мільёна долараў ЗША.**

**Урад Беларусі вызначыў тры галоўныя галіны садзейнічання з боку ААН і ПРААН у мэтах нацыянальнага развіцця — умацаванне нацыянальнага патэнцыялу, абарона навакольнага асяроддзя і мінімізацыя наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС, развіццё дэмакратычных працэсаў і абарона правоў чалавека.**

АЎГУСТУЎСКАЕ ПАГАДНЕННЕ

## РЭГІЁН «НЁМАН»

**У польскім горадзе Аўгустуў адбылося падпісанне міжнароднага пагаднення аб стварэнні еўрарэгіёна "Нёман". Быў таксама прыняты яго статут.**

**Як паведаміў генеральны консул Рэспублікі Беларусь у Беластоку Міхаіл Слямнёў, у састаў новай трансгранічнай супольнасці ўвайшлі Сувальскае ваяводства, Гродзенская вобласць і два літоўскія паветы — Алітускі і Марыямпольскі. Планавага далучэння да еўрарэгіёна "Нёман" прыгранічных раёнаў Калінінградскай вобласці пакуль не адбылося. Аднак, паводле слоў прадстаўніка гэтай вобласці, якія ў якасці назіральнікаў удзельнічалі ў цырымоніі падпісання пагаднення, пасля выканання шэрагу фармальна-прававых працэдур чатыры яе раёны — Азерскі, Гусеўскі, Несцераўскі і Чарняхоўскі — увальюцца ў створаны еўрарэгіён. Чакаецца, што ў бліжэйшы час у ім таксама будзе прадстаўлена Беластоцкае ваяводства.**

ПАМЯЦЬ



**4 чэрвеня ў Мінску па праспекце Ф. Скарыны ў доме, дзе жыў вядомы рэжысёр і педагог, народны артыст Беларусі, лаўрэат Дзяржаўных прэмій Канстанцін Саннікаў, устаноўлена мемарыяльная дошка, прысвечаная выдатнаму дзеячу культуры Беларусі.**

**НА ЗДЫМКУ: у час цырымоніі.**

НА МЯЖЫ

## ПЕРШЫ ПАГРАНІЧНЫ ЗНАК

**Устаноўка першага пагранічнага знака на беларуска-літоўскай граніцы адбылася ў раёне пункта пропуску "Беняконі — Шальчынінкай". Такім чынам, Беларусь і Літва пачынаюць абазначэнне дзяржаўнай граніцы на мясцовасці, завяршыўшы працэс яе дэлімітацыі.**

**Для дэмаркацыі беларуска-літоўскіх рубяжоў на першым этапе выдзелена 18,5 мільярда рублёў. Аднак у якую суму выльецца ўвесь комплекс мерапрыемстваў, звязаных з гэтым працэсам, сказаць пакуль што цяжка. Усяго ж на граніцы Беларусі і Літвы трэба ўстанавіць больш як 1,5 тысячы пагранічных знакаў.**

КОННАЯ МІЛІЦЫЯ



**Да таго, як у роце патрульна-паставой службы Першамайскага РАУС беларускай сталіцы з'явілася коннае аддзяленне, тэрыторыю парку Чэлюскінцаў і Батанічнага саду ахоўвалі тры нарады міліцыі. Рай-аддзел міліцыі арандаваў двух коней, і цяпер для выканання тых жа самых задач хапае двух супрацоўнікаў.**

**Конная міліцыя — эфектыўны сродак падтрымання правапарадку ў зонах адпачынку. У бліжэйшы час пры Першамайскім РАУС плануецца ўвесці патруляванне на конях у Севастопальскім скверы і зоне адпачынку вакол Слянянскай воднай сістэмы.**

**НА ЗДЫМКУ: сяржант Дзмітрый ЛЯОНЕЦ і яго конь Прага.**

АДУСЮЛЬ ПАКРЫСЕ

ЛЕВАБЯРЭЖНАЯ частка Гомеля — Новая Беліца адзначыла сваё 220-годдзе. Узнікшая як паселішча стараабрадцаў, якія шукалі паратунку ў Рэчы Паспалітай, Новая Беліца ў 1777 годзе была вызначана як паявтовы цэнтр, а праз сем дзесяцігоддзяў стала прадмесцем Гомеля. Цяпер Новая Беліца — адзін з чатырох раёнаў горада, у якім пражывае 60 тысяч чалавек.

ПАМІЖ урадам Беларусі і прадстаўніцтвам ААН у рэспубліцы падпісана спецыяльная праграма "Фарміраванне інфраструктуры падтрымкі і развіцця малога прадпрымальніцтва". Комплекс мерапрыемстваў разлічаны на тры гады.

КОЛЬКАСЦЬ злачынстваў, што ўчыняюцца з карыслівых намераў, няспынна павялічваецца. За першыя чатыры месяцы 1997 года ў Беларусі ўчынена 380 наўмысных забойстваў — на 73 працэнты больш, чым летась за такі ж час. Больш за 100 наўмысных забойстваў застаюцца нераскрытымі.

ІНТЭНСІЎНА вядуцца работы па рэстаўрацыі Нясвіжскай ратушы. На аднаўленне гэтага помніка архітэктуры XVII стагоддзя ўрад Беларусі выдзяляе 4 мільярды рублёў.

БІЗНЕС-ЦЭНТР у Гродне адкрыла Міжнародная фінансавая карпарацыя. Тут будуць бясплатна прадастаўляцца прадпрымальнікам інфармацыйныя і юрыдычныя паслугі, кансультацыі па бізнес-планаванню, менеджменту, фінансах і маркетынгу.

ДЛЯ ХВОРЫХ АСТМАЙ

## САЛІГОРСКАЯ СПЕЛЕАЛЯЧЭБНІЦА

**У Салігорску пачаў дзейнічаць лячэбна-бытавы корпус спелеалячэбніцы. Цяпер магчымасці падземнай лячэбнай установы павялічыліся ў два разы: замест 60 у саляным забоі адначасова папраўляюць здароўе 120 хворых на бранхіяльную астму.**

**У распараджэнні іх — утульныя палаты для адпачынку, сучасныя працэдурныя кабінеты, сталовая.**

**Будучыня ў спелеалячэбніцы, безумоўна, вялікая. Не толькі таму, што на Першым рудніку "Беларуськалія" заканчваюцца запасы сільвініту і саляныя забоі, пад'ёмныя механізмы змогуць працягваць службу людзям, аздараўляючы іх... 95 працэнтаў хворых у спелеалячэбніцы пазбаўляюцца ад пакутлівай задышкі ці атрымліваюць устойлівую рэмісію здароўя, якая забяспечвае паўнацэннае жыццё на многія гады.**

**У гэтым пераканаліся больш за пяць тысяч чалавек, якія амаль месяц дыхалі жыватворным падземным паветрам: сільвініт абагачае яго гаючымі для дыхальных шляхоў лёгкімі іонамі.**

КАМП'ЮТЭР І ПАМІДОРЫ

Галандская тэхналогія вырошчвання памідораў прынцыпова новая, яна выкарыстоўваецца на Светлагорскай агароднінай фабрыцы. Сутнасць яе ў тым, што за кожным кустом, які з сакавіка па снежань дасягае ў вышыню 10 метраў, сочыць камп'ютэр і пры неабходнасці, паводле патрабавання расліны, выдае ёй то вільгаць, то ўгнаенне. З кожнага квадратнага метра грунту тут плануецца атрымаць да 30 кілаграмаў, а да канца сезона з трох гектараў сабраць да тысячы тон памідораў.



НА ЗДЫМКУ: работніца фабрыкі Галіна ЛУЦКОВІЧ збірае памідоры.

440-я ЎГОДКІ Л. САПЕГІ

## ВЕЧАРЫНА Ў БАРАНАВІЧАХ

**Вечарына, прысвечаная 440-м угодкам з дня нараджэння выдатнага сына зямлі беларускай Льва Сапегі, прайшла ў Баранавічах. Ладзілі яе мясцовае аддзяленне Таварыства беларускай мовы пры падтрымцы Фонду імя Л. Сапегі.**

**Прысутнасць моладзі — вось адметная рыса гэтага неардынарнага мерапрыемства, у якім прынялі ўдзел прадстаўнікі інтэлігенцыі горада, мастацкія калектывы гарадскога Дома культуры — вядомы ў рэспубліцы дзіцячы танцавальны гурт "Лялькі" і мужчынскі народны хор.**

**Размова ішла аб жыцці і дзейнасці вялікага канцлера, яго ўплыве на развіццё юрыдычнай навукі ў Еўропе. Не менш займальнымі былі і гістарычныя звесткі аб генеалагічным дрэве Сапегаў. Асобую цікавасць прысутных выклікалі звесткі аб дачыненні Сапегаў да гісторыі Баранавіцкага раёна.**

# НЕ ТРЭБА ВЫНАХОДЗІЦЬ УЛАСНЫ ВЕЛАСІПЕД, КАЛІ МОЖНА КУПІЦЬ У СУСЕДА

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

***— Якія яшчэ важныя моманты можна было б вызначыць па выніках майскай сустрэчы Прэзідэнтаў у Кіеве!***

— У Кіеве адкрыта заяўлена: Прэзідэнты Украіны і Беларусі збіраюцца актыўна падтрымліваць адзін аднаго. Напрыклад, наша краіна выступала і выступае, каб не дапусціць ізаляцыі Беларусі на міжнароднай арэне.

Апошнім часам некаторыя палітыкі выказваюць апасенні, нібыта падпісанне Саюза Беларусі з Расіяй неяк сапсуе адносіны Беларусі з Украінай. Гэта не так. Прэзідэнт Кучма заявіў: права Беларусі, як і ўсякай іншай краіны, уступаць у любы саюз.

***— Але, здаецца, ёсць значныя разыходжанні па праблеме пашырэння НАТО!***

— Сапраўды, існуе некаторае несупадзенне пазіцый. Аднак трэба ўлічваць, што Украіна не імкнецца ўступаць у Паўночнаатлантычны блок. Мы выступаем за супрацоўніцтва з НАТО дзеля гарантавання ўласнай дзяржаўнай бяспекі. Менавіта такія мэты мае наш удзел у праграме "Партнёрства дзеля міру". Украіна таксама выказваецца супраць размяшчэння атамнай зброі побач з яе межамі. Але катэгарычнай адмовы НАТО ў нас няма. Неабходна весці канструктыўны дыялог.

Для хуткага і паспяховага вырашэння магчымых праблем наладжаны пастаянныя кансультацыі паміж міністэрствамі замежных спраў Украіны і Беларусі, падтрымліваюць кантакты Прэзідэнты краін. Суседзі павінны ведаць, што робіцца адзін у аднаго.

***— Апошнія падзеі сведчаць: наладжваюць адносіны Украіна і Расія, што ў сваю чаргу, для Беларусі таксама вельмі важна.***

— Расія была і застаецца прыярытэтам украінскай знешняй палітыкі. Яна наш галоўны эканамічны партнёр. Украіна імкнецца пашыраць і паглыбляць сувязі з Расіяй ва ўсіх галінах. Тым больш, што некаторыя так званыя вострыя праблемы на справе — калос на гліняных нагах і амаль ці не штучна нагнятаюцца некаторымі палітыкамі.

***— Якія эканамічныя прыярытэты зараз вылучае для сябе Украіна ў адносінах да Беларусі!***

— Добра вядома: наша эканоміка досыць замкнёная. Расія, Беларусь, Украіна, Казахстан існавалі ў адной эканамічнай прасторы. На Украіне да 70 працэнтаў прадукцыі давала машынабудаванне. Нярэдка гэтыя вырабы не мелі свайго канчатковага завяршэння, але базіраваліся на нашым прамысловым комплексе. Таму аднаўленне вытворчай кааперацыі і выхад на агульны рынак мае для нас першачарговае значэнне. Гэта ж тычыцца і энергазабеспячэння, і авіябудаўніцтва. Нават цяжка вылучыць нешта адно. У нас усіх вельмі інтэграваная прамысловасць. І зараз вынаходзіць веласіпед кожнаму паасобку неразумна. Тым больш, што на Беларусі веласіпеды вельмі добрыя...

Асобна хачу сказаць пра супрацоўніцтва ў вырашэнні чарнобыльскай праблемы. Тут агульная бяда, а таму патрэбны і агульныя намаганні.

***— Памятаецца, існавалі нейкія непаразуменні і прэтэнзіі з-за таго, што праз граніцу Украіны і Беларусі ў Расію трапляюць тавары, непажаданыя на яе рынку. Як тут зараз складваюцца абставіны!***

— Гэтае пытанне тычыцца, у першую чаргу, інтэграцыі Беларусі і Расіі. Украіна прытрымлівалася і прытрымліваецца прынцыпу свабоднага гандлю і ніякіх абмежаванняў не ставіць. Аднак Расія для нас вылучыла пералік тавараў, увоз якіх лімітаваны. Сёння гэты спіс паменшаў, але па-ранейшаму існуе. Да чаго такі падыход вядзе? Адзначаныя ўкраінскія тавары абкладаюцца высокім падаткам і робяцца неканкурэнтаздольнымі на рынку. Беларусь знаходзіцца ў адным прававым эканамічным полі з Расіяй, у мытным саюзе і павінна таксама прытрымлівацца гэтых абмежаванняў, што не заўсёды бывае ёй выгадна. Таму створана ўкраінска-беларуская ўрадавая камісія, якая заклікана правесці неабходныя перамовы і знайсці рашэнне.

***— Якія тавары трапілі ў праславуты пералік!***

— Галоўным чынам, гэта тычыцца цукру і спіртных напояў. У савецкі перыяд Украіна пастаўляла на агульны рынак 60 працэнтаў гарэлкі і 56 працэнтаў цукру. Вытворчыя магутнасці ўсе засталіся. Таму ўведзеныя абмежаванні паставілі нас у вельмі складанае становішча. Але мы імкнемся знайсці выйсце і найперш павышаем якасць украінскіх тавараў. Рынак ёсць рынак. Трэба лічыцца з наяўнасцю канкурэнцыі.

***— У час нядаўняй сустрэчы ўкраінскага і беларускага Прэзідэнтаў у Кіеве Леанід Кучма найбольш вострым назваў пытанне аб запазычанасці Украіны перад Беларуссю. Ваш погляд на сутнасць справы!***

— Сапраўды, такая праблема ставіцца. Дакладней, можна казаць, што ёсць перадумовы, каб лічыць, што запазычанасць існуе. Так сведчаць банкаўскія дакументы. Але хапае пакуль яшчэ і нявызначаных момантаў. Пачалося ж усё яшчэ на пачатку 90-х гадоў, калі з Украіны ў Расію праз Беларусь для канвертацыі прайшло шмат грошай. Падкрэслю: Украіна не адмаўляецца, што запазычанасць існуе, трэба толькі цалкам дакументальна ўсё пацвердзіць. Дарэчы, для гэтага ў канцы красавіка створана спецыяльная камісія з экспертаў Беларусі, Украіны і незалежных экспертаў Мінфіна і Нацбанка Расіі.

У 1993-м годзе Нацыянальны банк Беларусі прыняў аднабаковае рашэнне, у адпаведнасці з якім уся выручка ад рэалізацыі на беларускім рынку тавараў з Украіны залічвалася на рахунак пагашэння гэтай запазычанасці. Справа мінулая, але такі падыход, канешне, не мог спрыяць узаемаразуменню паміж нашымі краінамі.

***— Падобная практыка спынена!***

— Так, спынена. Усе зразумелі: праблема вырашаецца толькі шляхам перамоў.

***— Уладзімір Іванавіч, вы кажаце, што адчуваеце сябе на Беларусі, нібы дома. А як вы ацэньваеце ўмовы, створаныя беларускай дзяржавай для работы вашай місіі!***

— Складанасці ёсць. Але яны часовыя і павінны хутка вырашыцца. Зараз узводзіцца асобны будынак украінскага прадстаўніцтва. Прыгожы і ў прыгожым месцы. Дарэчы, непадалёку ад пасольстваў Расіі і ЗША. На пачатку наступнага года плануем уваходзіны.

***— Дзякуй, Уладзімір Іванавіч, за гутарку. Найлепшыя пажаданні і плёну ў працы!***

**Гутарку вяла Галіна УЛІЦЁНАК.**

## *ЗВІНЯЦЬ ЦЫМБАЛЫ...*





**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

**Сярод тых, хто парадаваў пастаўчан сваім мастацтвам, — ансамбль народнай музыкі "Фэст" з Баранавічаў, ансамбль "Выцінанка" са Століна, "Крупіцкія музыкі" з Міншчыны, віцебскі вакальна-харэаграфічны калектыў "Талака", фальклорны ансамбль "Шчодрыца" і многія іншыя калектывы і асобныя выканаўцы. Цёпла прымалі гледачы і нашых замежных суседзяў. Цудоўныя мелодыі і танцы артыстаў з малдоўскага сяла Джурджжумешты чаргаваліся з лірычнымі напевамі ансамбля "Бандонія" з Літвы. Як старых знаёмых сустракалі ў Паставах народную капэлу з польскага горада Бяла-Падляска і ансамбль народнай музыкі ўкраінскага сяла Княждвор, якія былі ўдзельнікамі мінулых фестываляў.**

**У свяце народнага мастацтва прынялі ўдзел прэзідэнт Сусветнай цымбальнай асацыяцыі Вікторыя Харэнчар, народныя артысты Рэспублікі Беларусь Міхаіл Дрынеўскі і Міхаіл Казінец, шэраг вядучых спецыялістаў музычных вучылішчаў, Акадэміі музыкі, Беларускага універсітэта культуры.**

**Яўген КАЗЮЛЯ.**

**НА ЗДЫМКАХ: гала-канцэрт фестывалю; імкнецца ўгору эмблема фестывалю; выступае "Бандонія" (Літва).**



## СУМЕСНАЯ СПРАВА НА 1,2 МІЛЬЯРДА ДОЛАРАЎ

Паўднёвакарэйская карпарацыя Daewoo на працягу бліжэйшых пяці гадоў мае намер інвесціраваць у эканоміку Беларусі 1,2 мільярда долараў. Пра гэта на сустрэчы з журналістамі заявіў міністр знешніх эканамічных сувязей Беларусі Міхаіл Марыніч. Перш за ўсё сродкі будуць накіроўвацца на арганізацыю зборачнай вытворчасці легкавых аўтамабіляў на базе Магілёўскага аўтазавода, малатанажных грузавікоў і мікрааўтобусаў на плошчах БелАЗа ці МАЗа. У Мемарандуме аб узаемаразуменні, заключаным з беларускім урадам, агаворваецца і стварэнне сумеснага прадпрыемства па выпуску кінескопаў, тэлевізараў і іншай электрабытавой тэхнікі (найбольш верагоднымі партнёрамі лічацца мінскі "Гарызонт" і віцебскі "Віцязь"). Сумесна з Мінскім заводам халадзільнікаў мяркуецца наладзіць вытворчасць вялікіх халадзільных камер, а на заводзе імя Арджанікідзе — асвоіць выпуск тэлефонных станцый для гарадскіх сетак. Па словах Міхаіла Марыніча, для рэалізацыі тэлекамунікацыйнага праекта ў Беларусі карпарацыя ўжо запрасіла ў карэйскага ўрада крэдыт на суму 30 мільёнаў долараў. Міністр не гаварыў падрабязна пра льготы, прадастаўленыя Daewoo, заўважыўшы толькі, што "яны такія ж, як і ў "Форда".

Старшыня праўлення карпарацыі Кім У Джунг на некалькі гадзін прыбыў у Мінск для перагавораў з першым віцэ-прэм'ерам Пятром Пракаповічам. У сталіцы Беларусі засталася працаваць група экспертаў карпарацыі для падрыхтоўкі ўстаноўчых дакументаў па стварэнню сумеснага прадпрыемства.

# АСТРАЛОГІЯ — НАВУКА БУДУЧЫНІ

Вераніка Кудраўцава — вельмі прыгожая жанчына. А яшчэ яна астролаг, чые прагнозы пастаянна друкуюць рэспубліканскія газеты, і ўжо каторы год яны збываюцца з выдатным і палохаючым пастаянствам. Мне здаецца, што ёй крыху складана гаварыць з тымі, хто ведае пра яе раман з астралогіяй, таму што людзі, самі таго не разумеючы, пачынаюць глядзець на яе так, быццам яна зараз адразу пачне адкрываць ім таямніцы будучыні. Між іншым, зусім дарэмна, таму што астралогія, нягледзячы на яе няпэўную рэпутацыю ў абывацеля, ніякіх адносін да містыкі не мае, будучы вельмі дакладнай навукай: у яе аснове ляжаць астранамічныя табліцы, якія складаюць і вывяраюць да вуглавых секунд вучоныя-астраномы. Калі і гэта не пераканае вас у тым, што астралогія — справа сур'ёзная і патрэбная, едзьце ў Маскву і паступайце ў вядомую паважаную ВНУ — Маскоўскае вышэйшае тэхнічнае вучылішча імя Баўмана, дзе створана кафедра навуковага прагназіравання на падставе астралагічных метадаў. Сёння астралогію як навуку вывучаюць у Маскоўскім авіяцыйным інстытуце, Рыжскім універсітэце. Што ж тычыцца Беларусі, то ў часы Рэчы Паспалітай у Кракаўскім універсітэце была створана вельмі сур'ёзная кафедра астралогіі. Праўда, было гэта вельмі даўно, так што сёння нам засталіся толькі ўспаміны аб гэтых слаўных часах і Вераніка Кудраўцава.

— Некаторыя лічаць, што наша будучыня прадвызначана, у кожнага свой лёс, перамяніць у якім нешта проста немагчыма, — гаворыць Вераніка. — Але чалавек прыходзіць у свет не для таго, каб, як аўтамат, адпрацаваць сваю праграму, а каб, змяняючы сябе, удасканальваць навакольны свет. Астралогія — гэта компас, які паказвае, куды ты ідзеш, як выбраць правільны шлях і куды ў канчатковым выніку можаш прыйсці.

— Ці маюць рацыю тыя, хто лічыць, што ад іх дзеянняў у навакольнай рэчаіснасці нічога не залежыць?

— Свет — адзіны арганізм, які складаецца з клетачак — людзей, нас з вамі. Ад стану клеткі залежыць здароўе ўсяго арганізма, і кожны чалавек, верыць ён у гэта ці не, сваімі дзеяннямі аказвае ўплыў на лёс усяго свету.

Ціха бразгае лыжачка, пахне кава, і я пачынаю адчуваць правакацыйнае жаданне пакінуць падрыхтаваныя пытанні і спытацца, а што там, наперадзе, праз год, месяц, заўтра... Потым становіцца сорамна, і я ўспамінаю аб прафесійных абавязках.

— Ці ўсе людзі сапраўды вольныя ў сваіх дзеяннях і жаданнях? І якую тады ролю ўсё ж адыгрывае лёс?

Аказваецца, ёсць людзі, якія не залежаць ад прадвызначэнняў і вольныя ад лёсу, якім быў, напрыклад, Юрый Андропаў, які падпарадкоўваў абставіны сваёй волі, а не чакаў, калі яны падпарадкуюць яго. А ёсць людзі фатальныя, у чыіх лёсах рок адыгрывае вялікую ролю ад нараджэння да смерці, і, дарэчы, менавіта такія людзі часта адыгрываюць значную ролю ў жыцці ўсяго чалавецтва. Такім быў, напрыклад, Карл Маркс, народжаны ў сонечнае зацьменне, якое да таго ж было бачнае на тэрыторыі Расіі. Праз васемнаццацігадовы цыкл Сараса гэта падзея ўплывала на нашу краіну, ну а чым гэта ўсё скончылася, вы ведаеце самі. Тым не менш, большасць людзей не падпарадкоўваюцца гэтым крайнасцям і цалкам здольныя тварыць і карэкціраваць свой лёс. Але каб рабіць гэта дакладна, рэальна ўлічваючы свае магчымасці, і патрэбна навука, якая падкажа, дзе падсцяліць саломкі, каб было не балюча падаць, а можа быць, і зусім застацца на кані.

Зрэшты, вывучэнне астралогіі ў інсты-

# ПАЛІТЫЧНАЯ ВЯСНА 1917-га: НАДЗЕІ І РАСЧАРАВАННІ

У красавіку-маі ў часцях і злучэннях фронту прайшлі сходы прадстаўнікоў салдацкіх арганізацый, адбыліся армейскія з'езды, на якіх былі выбраны камітэты армій. Стварэнне сістэмы салдацкіх арганізацый завяршыў І з'езд ваенных і рабочых дэпутатаў армій і тылу Заходняга фронту, праведзены ў Мінску 7—17 красавіка 1917 года. 1 200 дэлегатаў прадстаўлялі ўсе арміі фронту і шэраг населеных пунктаў Беларусі. Старшынстваваў на з'ездзе Б. Позерн. Рэзалюцыі з'езда (аб вайне, аб адносінах да Часовага ўрада, аб рабочых і сялянскіх пытаннях, аб арганізацыі войска) з невялікімі мадыфікацыямі пераказвалі асноўныя дакументы Петраградскага Савета. У сэнсе ўплыву на мясцовыя падзеі важнае значэнне мела рэзалюцыя па аграрным пытанні, якая патрабавала выключыць зямлю з гандлёвага абароту і перадаць яе ў карыстанне сялянам на аснове працоўнай нормы (канчатковае рашэнне пакідалася за Устаноўчым сходам), а таксама прыпыніць дзеянне сталыпінскага закона 1910 года аб выхадзе з абшчыны. Для арганізацыі сялянства вайсковыя камітэты павінны былі накіраваць у вёску агітатараў — прызваных у армію настаўнікаў, аграномаў, кааператараў і г. д.

З'ездам быў сфарміраваны Выканаўчы камітэт Заходняга фронту (Франтавы камітэт) у складзе 75 чалавек (32 сацыялісты-рэвалюцыянеры, 29 сацыял-дэмакратаў, астатнія беспартыйныя) на чале з эсэрам У. Падвіцкім. Размясціўся ён у Мінску. Карыстаючыся значнай узброенай падтрымкай, Франтавы камітэт стаў у маштабах Беларусі адным з наймацнейшых суб'ектаў палітычнай волі.

Узнікненне на фронце паралельнай камандаванню структуры ўлады сур'ёзна падрывала агульнапрынятыя дысцыплінарныя асновы войска. Імклівая палітызацыя няўхільна вяла да зніжэння кіруемасці і баяздольнасці воінскіх часцей. Масавай з'явай станавілася дэзерцірства. Шырокі размах набыло братанне з нямецкімі салдатамі, нярэдка інспіраванае камандаваннем праціўніка. Разлажэнне фронту ператварыла яго ў сур'ёзны фактар грамадскай нестабільнасці, крыніцу павышанай небяспекі для цывільнага краю.

Успплеск грамадзянскай актыўнасці ва ўмовах небывалай для Расіі свабоды слова, сходаў, саюзаў выявіўся ў паслялютаўскі перыяд у дзейнасці шматлікіх палітычных партый. У адрозненне ад іншых нацыянальных рэгіёнаў імперыі, у якіх значная частка насельніцтва пайшла за нацыянальна-дэмакратычнымі сіламі, на Беларусі пры незавершанасці фарміравання нацыі і невысокай нацыянальнай самасвядомасці тытульнага этнасу пераважным уплывам завалодалі агульнарасійскія партыі. Абапіраючыся на камандныя, гаспадарчыя і палітычныя структуры Заходняга фронту, вопытныя кадры інтэлектуалаў, фінансавыя магчымасці, яны сталі шпарка ствараць сетку сваіх нізавых арганізацый, разгарнулі шырокую вусную і друкаваную прапаганду, занялі дамінуючае становішча ў органах улады.

Вядучая ўрадавая партыя кадэтаў (з пачаткам рэвалюцыі стала называцца партыяй народнай свабоды) заснавала свае аддзелы ў Віцебску, Мінску, Магілёве, Гарадоцкім, Горацкім, Гомельскім, Чавускім паветах; к ліпеню 1917 года на Беларусі дзейнічалі 10 кадэцкіх арганізацый. Аднак намер ПНС мадэрнізаваць краіну па заходнееўрапейскім узоры — з прававой дзяржавай, развітой грамадзянскай супольнасцю, рынкам як спосабам функцыянавання эканомікі — быў мала зразумелы асноўнай масе нядаўніх царскіх падданых. Таму кадэтам не даводзілася разлічваць на вельмі высокі рэйтынг, тым больш, што, атрымаўшы ўладу, яны не спяшаліся з ажыццяўленнем наспелых рэформ, упарта выступалі за працяг абрыдлай усім вайны.

Найбольш сугучнай туманным, але невынішчальным марам народа пра справядлівы лад была ідэалогія сацыялістычных партый. Вельмі прывабнай, асабліва ў вачах сялянства, выглядала праграма неанародніцкай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў (эсэраў) з іх ідэяй сацыялізацыі зямлі. На Беларусі арганізацыі ПСР узніклі ў Мінску, Віцебску, Оршы, Полацку, Магілёве, Мазыры, Вілейцы, Бабруйску, Слуцку, на Заходнім фронце; летам 1917 года ў іх налічвалася не менш 30 тысяч членаў.

Шырокай папулярнасцю карысталіся таксама сацыял-дэмакраты, якія, аднак, былі арганізацыйна раз'яднаныя і распадаліся на некалькі плыняў: група "Адзінства", меншавікі-абаронцы, меншавікі-інтэрнацыяналісты, "міжраёнцы", бальшавікі-ленінцы. На Беларусі моцную сацыяльную апору меў Усеагульны яўрэйскі рабочы саюз (Бунд), які прымыкаў да меншавіцкага крыла РСДРП. У першыя месяцы рэвалюцыі ў рамках тэндэнцыі да стварэння шырокай кааліцыі дэмакратычных сіл усе сацыял-дэмакраты, у тым ліку і бальшавікі, рушылі ў аб'яднаныя арганізацыі РСДРП — т. зв. "аб'яднанкі". На Беларусі яны афарміліся ў Віцебску, Магілёве, Мінску, Гомелі, Рагачове, Полацку, Оршы, Клімавічах, Бабруйску, Слуцку, у часцях і злучэннях Заходняга фронту. Аднак пасля вяртання ў красавіку з эміграцыі У. Леніна гэтаму працэсу стала аказвацца рэзкае супрацьдзеянне. Апантаны жаданнем распаліць з тэрыторыі Расіі полымя сусветнай сацыялістычнай рэвалюцыі, Ленін здолеў пераканаць бальшавіцкую частку РСДРП у неабходнасці неадкладна пачаць падрыхтоўку такой рэвалюцыі ў Расіі. Гэта азначала арганізацыйны разрыў з тымі сацыял-дэмакратамі, якія лічылі, што рабіць практычныя крокі да сацыялізму ў спустошанай вайною сялянскай краіне — суцэльная утопія. Пад націскам свайго кіраўніцтва мясцовыя бальшавікі сталі выходзіць з "аб'яднанак" і ўтвараць самастойныя арганізацыі.

Усе агульнарасійскія партыі — і ліберальныя, і народніцкія, і сацыял-дэмакратычныя — не ўяўлялі ажыццяўленне дэмакратычных або класавых задач без захавання ці нават пашырэння тэрытарыяльных маштабаў вялікай Расійскай дзяржавы. Між тым імперскі тып дзяржаўнасці, паглынаючы безліч рэсурсаў для ўтрымання і прырашчэння тэрыторый, быў адным з галоўных тармазоў на шляху эканамічнай і палітычнай мадэрнізацыі грамадства. Гэтая калізія найбольш востра адчувалася ў нацыянальных рэгіёнах, адкуль ужо ў першыя тыдні рэвалюцыі загучалі патрабаванні рэфармаваць унітарную цэнтралізаваную імперыю на прынцыпах нацыянальнай дзяржаўнасці народаў. Тэндэнцыя да дзяржаўнага і нацыянальна-культурнага самасцвярджэння пачала прабіваць сабе дарогу і ў беларусаў.

25—27 сакавіка 1917 года ў Мінску адбыўся з'езд беларускіх арганізацый, скліканы Мінскім аддзелам Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны. З'езд заявіў аб падтрымцы Часовага ўрада і выказаўся за аўтаномію Беларусі ў складзе Расійскай дэмакратычнай фэдэратыўнай рэспублікі. Ядром беларускай тэрыторыі вызначаліся Мінская, Магілёўская, Віцебская, Гродзенская і Віленская губерні. Аўтаномная Беларусь павінна была мець свой прадстаўнічы орган з заканадаўчымі функцыямі — Беларускую краёвую раду. У кампетэнцыю рады належала перадаць усе пытанні мясцовага жыцця. Знешняя палітыка і вайсковыя справы пакідаліся за агульнарасійскім парламентам. Для арганізацыі кіравання краем "у кантэксце з Часовым расійскім урадам" з'езд выбраў выканаўчы орган — Беларускі нацыянальны камітэт (БНК) на чале з вядомым палітыкам, прадстаўніком радавітай дынастыі аграрыяў і прадпрымальнікаў Р. Скірмунтам.

У тыя ж дні аднавіла легальную дзейнасць Беларуская сацыялістычная грамада. БСГ таксама выступіла за аўтаномію Беларусі ў агульнарасійскай федэрацыі. Аўтанамісцкая канцэпцыя ляжала ў аснове праграм Беларускай народнай партыі сацыялістаў, Беларускай народнай грамады, Хрысціянска-дэмакратычнай злучнасці беларусаў і іншых беларускіх згуртаванняў, што сталі ўзнікаць на ўсход ад лініі фронту. У атмасферы рэвалюцыйнай эйфарыі яшчэ бытавала ілюзія, што з прыходам да ўлады ў Расіі лібералаў, а затым і сацыялістаў можна ў рамках гэтай дзяржавы дэмакратычным шляхам знайсці прымальныя для ўсіх формы ўзаемаадносін паміж народамі.

Канстытуіраванне ў той час Беларусі як асобнай нацыянальна-дзяржаўнай адзінкі было магчыма пры ўмове, што беларускія адраджэнцы здолеюць аб'яднаць вакол ідэі стварэннія аўтаномнай сістэмы ўлады большасць тутэйшых палітычных сіл, а таксама асноўную частку беларускага этнасу — сялянства. Зрабіць гэта ў тагачаснай рэальнай сітуацыі было надзвычай цяжка.

Рэвалюцыйныя перамены ў беларускай вёсцы пачаліся пазней, чым у гарадах, мястэчках і на фронце. Сюды марудней пранікалі звесткі пра падзеі ў краіне. Але паступова пад уздзеяннем новых органаў улады, Саветаў, дэмакратычных партый сялянства стала абуджацца да грамадскай актыўнасці.

З гістарычных дакументаў бачна, што Мінскі камітэт Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны адразу пасля падзення царызму спрабаваў весці прапагандысцкую і арганізацыйную працу сярод сялян. Неўзабаве ён пачаў супрацоўнічаць у гэтым накірунку са створаным у тыя дні Камітэтам прапаганды на вёсцы асноў новага дзяржаўнага ладу (старшыня доктар У. Марзон). Абодва камітэты сталі рыхтаваць скліканне краёвага сялянскага з'езда Беларусі, прызначанага на 4 красавіка.

Але акурат падчас падрыхтоўкі з'езда па ініцыятыве М. Фрунзе ў Мінску афармляецца яшчэ адна арыентаваная на сялянства арганізацыя — Мінскі губернскі сялянскі камітэт, які займае канфрантацыйную пазіцыю адносна беларускага руху. Гэты камітэт абвясціў, што склікае 20 красавіка з'езд сялян Мінскай губерні, чым паставіў пад сумненне мэтазгоднасць выбрання дэлегатаў на агульнакраёвы з'езд. Пасля абнародавання праграмы аўтаноміі Беларусі і выбрання старшынёй БНК Р. Скірмунта ад беларускага руху адхіснуўся і Камітэт прапаганды, якому такія рашэнні падаліся непрымальнымі. Большасць яго членаў далучылася да губернскага сялянскага камітэта на чале з М. Фрунзе. У выніку праведзены 4 красавіка пад старшынствам грамадоўца А. Смоліча краёвы сялянскі з'езд аказаўся малапрадстаўнічым і не пакінуў прыкметнага следу ў жыцці вёскі.

Справа арганізацыі беларускага сялянства надоўга апынулася ў руках расійскіх эсэраў і сацыял-дэмакратаў. Пад іх кіраўніцтвам у красавіку-чэрвені 1917 года на Беларусі былі падрыхтаваны і праведзены губернскія і павятовыя сялянскія з'езды, падчас якіх утварыліся Саветы сялянскіх дэпутатаў. Найбольшы розгалас атрымаў І з'езд сялянскіх дэпутатаў Мінскай і Віленскай губерняў, які прайшоў у Мінску 20—23 красавіка пад старшынствам М. Фрунзе. У цэнтры ўвагі 800 дэлегатаў знаходзілася пытанне аб зямлі. Прынятая рэзалюцыя ў цэлым паўтарала эсэраўскія палажэнні аб скасаванні прыватнай уласнасці на зямлю, абвяшчэнні яе ўсенародным набыткам і перадачы ў карыстанне сялянам у памерах працоўнай нормы. Вострую дыскусію выклікала на з'ездзе праблема дзяржаўнага і нацыянальна-культурнага самавызначэння беларусаў. Распрапагандаваныя старшынёй з'езда і яго аднадумцамі, дэлегаты прагаласавалі за рэзалюцыю, якая асуджала ідэю палітычнай аўтаноміі Беларусі як нібыта "не адпавядаючую інтарэсам працоўных класаў беларускага народа".

Тым не менш кіраўнікі з'езда фактычна прызналі недапушчальнасць захавання статус-кво, калі беларуская этнічная тэрыторыя была разарвана паміж некалькімі губернямі, жорстка падпарадкаванымі — кожная паасобку — агульнарасійскаму цэнтру, але сістэмай кіравання ніяк не звязанымі паміж сабой. У выніку ў рэзалюцыі з'явілася пажаданне аб'яднаць беларускія губерні ў адміністрацыйна-гаспадарчую адзінку — вобласць, арганізаваную на прынцыпах земскага самакіравання.

...Рэвалюцыйнае разводдзе 1917 года ўзламала ледзяное покрыва самадзяржаўнага дэспатызму, якое стагоддзямі скоўвала творчыя сілы народаў Расіі. Здавалася, адбыўся прарыў да больш цывілізаваных форм жыцця, да ўкаранення дэмакратычных механізмаў рэалізацыі шматстайных грамадскіх інтарэсаў. Аднак хутка выявілася ілюзорнасць падобных надзей. Гіганцкая, разнашэрсная супердзяржава, якая даўно перасягнула аптымальныя для эфектыўнага кіравання памеры, прадэманстравала поўную няздольнасць функцыянаваць у дэмакратычным рэжыме. Краіну захліснула ўсесакрушальная анархічная стыхія. Утаймаванне яе адбылося шляхам рэанімацыі ў кастрычніку 1917 года ў новым ідэалагічным аздабленні аўтарытарна-дыктатарскіх метадаў. Толькі некалькі народаў знайшлі тады ўласны шлях выратавання з бездані ўсерасійскага хаосу — шлях пабудовы незалежнай прававой дзяржавы і свабоднай грамадзянскай супольнасці. Сёння такой дарогай могуць пайсці і беларусы. Але ці не змарнуем мы чарговы раз спрыяльны гістарычны шанс?

**Станіслаў РУДОВІЧ.**

**Заканчэнне**
**Пачатак у № 24.**

тутах, дзе займаюцца дакладнымі навукамі, мае і іншыя мэты: астралогія ў спалучэнні з матэматычнымі метадамі апрацоўкі даных, зандзіраваннем працэсаў, што адбываюцца ў грамадстве, дае сацыёлагам магчымасць перайсці ад падліку галасоў і канстатацыі грамадскай думкі да прагназіравання грамадскіх працэсаў і тэндэнцый. А валодаючы такой інфармацыяй, можна пераходзіць да пераўтварэння сітуацый і карэкціроўкі не толькі асобна ўзятых лёсаў... Дарэчы, на Захадзе паслугамі астролагаў карыстаюцца пастаянна і на ўсіх узроўнях. Вераніка прывяла прыклад, што паспеў стаць класічным сярод астролагаў усяго свету: месца і час сустрэчы паміж Рэйганам і Гарбачовым, што праходзіла на караблі каля вострава Мальта, амерыканскі прэзідэнт назначыў па парадзе свайго астролага. У выніку ён зняў усе палітычныя вяршкі, у той час як яго партнёр толькі падпісаў дакументы... Астралогія дапамагае не ўпусціць спрыяльны шанц, з высокай дакладнасцю прагназіраваць вынікі выбараў, рэальна ацаніць магчымасці партнёра, выбраць час для падпісання важнага дагавора. Заўважу, што падпісанне дагавора паміж Расіяй і Беларуссю адбылося 2 красавіка, у дзень зацмення. Згодна ўсё з тым жа цыклам Сараса, першыя рэальныя вынікі гэтага саюза праявяцца гадоў праз шэсць, а ў поўнай меры вынік таго, што адбылося, мы ўбачым толькі праз 18 гадоў. Увогуле, гэта абнадзейвае...

— А ці не помсціць лёс тым, хто спрабуе пранікнуць у сакрэты будучыні? (Гэта зададзенае Веранікі пытанне цікавіла мяне даўно).

— Так бывае ў выпадку, калі чалавек неадукавана ці некарэктна ўмяшаўся ў чужы лёс. У астралогіі існуюць свае законы, і яна не цярпіць, калі нехта імі грэбуе. Ёсць такое паняццё "закрыццё інфармацыі", калі ніхто не мае права гаварыць чалавеку пра тое, што яго чакае. Я думаю, што гэта адбываецца тады, калі чалавеку трэба прыняць нейкае асабліва важнае і адказнае рашэнне, настолькі сур'ёзнае, што ніхто не мае права ўмешвацца і ўплываць на яго.

Уласна, гэтая праблема тычыцца не толькі асобнага чалавека. Інфармацыя ж, калі яна сама па сабе нейтральная і "беспартыйная", можа прынесці грамадству дабро ці зло ў залежнасці ад таго, хто і як яе выкарыстае. Наколькі карэктнае ўмяшанне экстрасэнсаў, астролагаў і магаў у жыццё грамадства? Мы сёння ўжо маем прэцэдэнт у асобе пецярбургскага экстрасэнса Вадзіма Дзвітая, які не ўтойвае, што разам з групай падтрымкі ў час прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі выступаў на баку будучага прэзідэнта.

З гэтай нагоды мая субяседніца заўважыла, што ва ўсе часы астролагі нават з рызыкай для жыцця імкнуліся застацца нейтральнымі і незалежнымі. Так, сёння з'явіўся магчымасці незалежна і вельмі эфектыўна ўздзейнічаць на людзей, іх псіхалогію. Спецыялісты кваліфікуюць гэта як новую, "тонкую" зброю, якая дазваляе вельмі шырока і нібыта незаўважна аказваць магутны ўплыў на натоўп, а значыць, і на працэсы, што праходзяць у грамадстве. Што ж тычыцца асобнага экстрасэнса, то, на жаль, можна толькі канстатаваць, што яго дзеянні — вынік яго ж маральнага выбару. А калі кожны нясе адказнасць за свой выбар, то і будзе яму па справах яго. Ну а ўмешваючыся ў глабальныя працэсы, варта чакаць і глабальнай адплаты. Увогуле ж, з пункту гледжання астралогіі, эра Вадалея, якая пачнецца з 2003 года, будзе эрай ідэалагічных баек. Да таго і ідзе, таму што нават з гараскопа НАТО (уяўляеце, ёсць і такі!) вынікае, што ў 1999 годзе зусім магчымы ўдзел гэтага блока ў глабальных ваенных дзеяннях. Каб праверыць гэты прагноз, засталося зусім нямнога часу... А пакуль давайце прыслухаемся да парады астролага і пачнем з вялікай увагай і павагай ставіцца да навукі, якая на працягу стагоддзяў даказвала, што зоркі, у адрозненне ад людзей, дакладны, сумленныя і справядлівыя дарадца.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

З ВІЛЕНШЧЫНЫ

# СЦЕЖКАМІ Б. ТАРАШКЕВІЧА

Неяк напрыканцы траўня я, гісторык Сяргей Вітушка, і некалькі вучняў беларускай школы Вільні адправіліся ў вандроўку да цёткі Марыі Багдановіч — пляменніцы Браніслава Тарашкевіча. Вёска Чарнулішкі, воддаль ад вёскі на ўзгорку растуць старая ліпа і куст бэзу. А вакол раскінуўся цудоўныя краявіды. З аднаго боку відаць вежы касцёла вёскі Лаварышкі, каля касцёла могілкі, на якіх спачываюць продкі Тарашкевіча. З другога боку лес, недалёка праходзіць мяжа Літвы і Беларусі.

На гэтым прыгожым месцы стаяла некалі вялікая хата на два канцы, у якой нарадзіўся Браніслаў Тарашкевіч. Потым яе перанеслі ў вёску і пабудавалі школу, цяпер у гэтым будынку жывуць чужыя людзі, якія ніякага дачынення не маюць да нашага славутага земляка, ды і ў вёсцы наўрад ці хто ведае пра яго. Сведкамі засталіся толькі дрэвы, што растуць на ўзгорку, і цётка Марыя.



Мы прыехалі надвячоркам. Дзень выдаўся па-вясноваму цёплым. Утульны домік, вакол цвітуць дзьмухаўцы. Вельмі цёпла нас сустрэла гаспадыня. "Вось толькі ногі баляць, хаджу толькі каля хаты, нікуды не выязджаю", — паскардзілася цётка Марыя. Ёй ужо мінула 75 гадоў. Нялёгкае было жыццё. У 1947 годзе першага мужа замардавалі бандыты за каня, калі ён ехаў на кірмаш у Свіра, потым знайшлі каля Катлоўкі. Засталася з малым сынам на руках. Гэта быў цяжкі пасляваенны час. Але Бог даў здароўя, выжылі. Цяпер трымае невялікую гаспадарку, на выхадныя прыязджаюць з Вільні дзеці, унукі. Яны і дапамагаюць.

Цётка Марыя памятае свайго дзядзьку — Браніслава Тарашкевіча, які апошні раз наведаў Чарнулішкі ў 1930 годзе. У 1931 годзе яго арыштавалі, а ў 1933-м заменілі на Ф. Аляхновіча. Браніслаў вельмі добра вучыўся, хадзіў у школу ў Лаварышкі. Жыць было цяжка, сям'я вялікая. Ён адзін з сям'і выбіўся ў вялікія людзі. А ўсе астатнія толькі школу скончылі. Ён і ўсім нам гаварыў: "Вучыцеся, дзеткі, бо непісьменным будзе вельмі цяжка жыць", — успамінае цётка Марыя. Яна скончыла пяць класаў, была "граматнай", таму і пісьмы пісала дзядзьку.

Мы ведаем Браніслава Тарашкевіча як аўтара "Беларускай граматыкі для школ", выдадзенай у Вільні ў 1918 годзе, якая вытрымала шэсць выданняў, як грамадзянскага і палітычнага дзеяча на пачатку XX стагоддзя, як абаронцу беларусаў.

"Што ж ты так за гэты народ змагаешся, чаму ты так мучышся, цябе цягаюць па турмах?" — казаў Браніславу бацька Адам Тарашкевіч. А ён, нягледзячы на цяжкасці, перашкоды, арышты, змагаўся. У 1917 годзе — адзін з лідэраў Беларускай сацыялістычнай грамады, у 1919 — выкладчык беларускай мовы ў Мінскім педагагічным інстытуце, заснавальнік і старшыня Беларускай сялянска-рабочай грамады. Пераклаў на беларускую мову "Іліяду" Гамера і "Пана Тадэвуша" А. Міцкевіча. Ён вядомы як публіцыст і праваўца. У 1938 годзе расстраляны бальшавікамі. "Як чалавек, ён быў вельмі добры, прыветлівы, любіў людзей, шмат вершаў ведаў, любіў спяваць, быў справядлівы і вельмі любіў дзяцей, умеў ладзіць. Калі прыязджаў дзядзька, то было сапраўднае свята з жартамі, гульнямі", — успамінае пані Марыя. Яшчэ яна нам распавяла пра цётку Веру — першую жонку Браніслава. "О, гэта была самая добрая цётка!"

У сямейным альбоме захаваліся здымкі: Браніслаў Тарашкевіч з жонкай Верай і сынам Радаславам (1932 год), пахаванне ягонага бацькі (1931 год). Як вялікую каштоўнасць паказала кніжку Арсеня Ліса пра Браніслава Тарашкевіча. Раней прыязджалі навукоўцы з Мінска. Цётка Марыя ездзіла ў Радашковічы, калі адзначалі 100 гадоў з дня нараджэння Браніслава Адамавіча. Усё гэта было. А цяпер? Ёсць у Радашковічах і ў Маладзечне вуліцы імя Б. Тарашкевіча. Абяцалі стварыць музей у Радашковічах. "Але пакуль у тым доме жывуць чужыя людзі і вырошчваюць гусей". У Чарнулішках захаваўся будынак, у якім нарадзіўся Браніслаў Адамавіч, хоць і не на тым месцы стаіць. Праўда, падчас нашай вандроўкі цётка Лёня, яшчэ адна пляменніца Б. Тарашкевіча, прасіла, каб беларусы Віленшчыны дапамаглі зрабіць так, каб хата належала пляменніцам, каму завяшчаў дзядзька. У студзені споўнілася 105 гадоў з дня нараджэння Браніслава Тарашкевіча. На вуліцы Віленскай у Вільні адваліся кавалак шыльды на беларускай мове, прысвечанай Б. Тарашкевічу. Напэўна, ніякасна зроблена, бо адкрыццё было ў 1994 годзе. Вось такія нашчадкі канца XX цывілізаванага стагоддзя.

Але растуць вучні беларускай школы імя Ф. Скарыны, якія цікавяцца асобай Браніслава Тарашкевіча. І трэба спадзявацца, прыйдзе час — будзе і музей.

**Леакадзія МІЛАШ,**
**настаўніца.**
г. Вільня.

**Здымак зроблены ў хаце цёткі Марыі ў час вандроўкі. Дзве пляменніцы Браніслава Тарашкевіча — цётка Лёня і цётка Марыя. Май 1997 года.**



**Пятніцкай царкве ў Крычаве сто гадоў. У 1937 годзе яна была разбурана, але народ аднавіў яе, і цяпер тут праходзяць набажэнствы.**

**Фота Валерыя БЫСАВА.**

З ЛАТВІІ

# БЕЛАРУСКАЯ ШКОЛА

Заканчваецца другі навучальны год у беларускай нядзельнай школе, што працуе пры культурна-асветніцкім таварыстве беларусаў Даўгаўпілса "Уздым". З дня свайго заснавання яна падрасла колькасна больш чым у два разы: зараз у ёй вучыцца 16 дзяцей рознага ўзросту. Калі на працягу першага года тут шчыравала настаўніца Вольга Паўловіч, то апошнія паўгода аддае дзецям свае веды і цеплыню свайго сэрца не менш таленавітая настаўніца Тацяна Бучаль. Вось што паведаміла Тацяна Фамінічна ў нашай з ёю размове:

— У беларускай нядзельнай школе мы вывучаем беларускую мову і літаратуру, гісторыю Беларусі, а таксама англійскую мову. Хацелася б, каб абсяг вывучаемых прадметаў пашыраўся. Ёсць абяцанне ад салісткі ансамбля "Купалінка" Зінаіды Дзецярэнкі вывучаць з дзецьмі фальклорныя песні (можа, і свой дзіцячы ансамбль створым), ад кансула Валерыя Сысоева — выкладаць этыку. Пасля заняткаў мы нярэдка разам ходзім на канцэрты і выставы. Дзеці нашай школы прымалі ўдзел з беларускімі калыханкамі і вершамі ў свяце калыханкі і на канцэрце ў Дзень маці ў Цэнтры латышскай культуры. Радуе клопат з боку нашай Бацькаўшчыны: летась 10 дзяцей беларускай нядзельнай школы былі на адпачынку (па льготных пуцёўках) у летніку "Зубраня" на возеры Нарач. Вельмі прыйшліся да сэрца нашым дзецям родныя мясціны іх бацькоў! Тут хочацца выказаць словы падзякі нашаму фундатару дырэктару завода "Дауэр" спадару Дуброўскаму, які ўжо не ўпершыню дапамагае нам, бясплатна прадастаўляючы аўтобус. Спадзяемся, што такая магчымасць надарыцца і ў гэтым годзе. Запланавалі паездку ў Віцебск з візітам у адказ да вучняў і настаўнікаў латышскай нядзельнай школы. Па дарозе абавязкова наведаем старажытны беларускі горад Полацк. Трохі абнадзейвае нас, што ўрадам Рэспублікі Беларусь распрацоўваецца праграма "Беларусы ў свеце" дзе, спадзяемся, знойдзецца месца (і сродкі) для беларускіх нядзельных школ. Добра, каб такая магчымасць фінансавай дапамогі з'явілася і ў латышскіх упад. Маем надзею, што Генеральны кансулат Беларусі ў Даўгаўпілсе не адвядзе ад нас свайго пільнага позірку, а будзе і надалей аказваць нам падтрымку.

— Жадаю, спадарыня Бучаль, каб усе твае надзеі-спадзяванні спраўдзіліся-збыліся. І шчырае табе дзякуй за бескарыслівую самаадданую працу на карысць нашае маці Беларусі, а таксама — краіны, у якой мы жывем, — Латвіі.

**Станіслаў ВАЛОДЗЬКА.**
г. Даўгаўпілс.

ПАМЯЦІ
Алеся САЛАЎЯ

# НАШЧАДАК КРЫВІЧОЎ

**Цяжка тут без цябе на чужыне,**
**о, Матуля, старонка мая!**
**Як дзіця, я цябе не пакіну,**
**на цябе не забудуся я.**

Роспач і туга, нясправджаныя мары і затоены трагізм чуюцца ў гэтых паэтычных радках. А належаць яны нашаму земляку, паэту з Койданаўшчыны Алесю Салаўю, які змушаны быў жыць далёка ад сваёй Радзімы і, як бачым, вельмі пакутаваў праз гэта. Ён спадзяваўся калі-небудзь вярнуцца ў сваё роднае Крысава.

**А ўсё ж мы вернемся дахаты**
**у Айчыну**
**І не заблудзімся ў шляхах чужой**
**зямлі.**
**А я вярнуся не адзін, а з сынам —**
**Нашчадкам крывічоў і іх сям'і.**

Але ягонае жаданне так і засталося няздзейсненай марай. У 1978-м, калі яму было ўсяго 56 гадоў, паэт памёр, купаючыся ў моры далёкай Аўстраліі, так і не пабачыўшы Бацькаўшчыны. Як вобразна зазначыў паэт Міхась Скобла, адкрываючы вечарыну памяці паэта, што адбылася ў Доме літаратара, ён паплыў і не даплыў да гэтак шанаванай ім Айчыны.

Аб тым, як няпроста склаўся жыццёвы і творчы шлях Алеся, цікава распавядала кандыдат філалогіі, знаўца літаратуры беларускага замежжа Лідзія Савік.

З успамінамі на вечарыне выступіў зямляк паэта, вядомы пісьменнік і даследчык гісторыі Мікола Ермаловіч. Ён прыгадаў, як разам з Алесем яны вучыліся ў койданаўскай школе, дзе і былі зроблены першыя крокі ў літаратуру. Да творчасці іх падахвочвала настаўніца. Яна стварыла рукапісны часопіс, дзе змяшчала вершы сваіх вучняў. Пазней сябры друкаваліся ў раённай газеце "Ударнік Дзяржыншчыны". Гэта натхняла, давала крылы. Пасля арышту бацькоў Алесь працаваў на торфараспрацоўках, але творчасці не пакідаў.

Ведаў Алеся Салаўя і сябраваў з ім паэт Мікола Аўрамчык. Яны сустрэліся ў ліпені 1938 года на месячных курсах маладых літаратараў у Мінску. Гэты час (1938—1939 гады) быў самым плённым у творчасці паэта. Яго вершы друкаваліся літаральна ва ўсіх цэнтральных выданнях. Мікола Аўрамчык у сваім выступленні на вечарыне прыгадаў адзін трагікамічны выпадак з жыцця Алеся, які надарыўся падчас ягонай працы ў лагойскай раённай газеце. Калі пачалася вайна, паэт напісаў верш супраць Гітлера. Газета не паспела яго надрукаваць, як у Лагойску апынуліся немцы. Рэдакцыя разбеглася хто куды. Колькі часу блукаў па лесе Алесь. Але падзецца не было куды, і ён вярнуўся ў Лагойск, дзе адразу ж быў арыштаваны за той верш, што немцы знайшлі на наборнай касе ў рэдакцыі. На пытанне следчага, чаму ён напісаў гэты верш, Алесь адказаў, што ён выконваў загад рэдактара.

— А калі мы загадаем, ты напішаш верш супраць Сталіна?

— А чаму ж не, — падумаўшы, адказаў Алесь і дадаў: — Бальшавікі маіх бацькоў рэпрэсіравалі, асірацілі мяне.

Яму далі аловак, паперу. Праз гадзіну верш быў гатовы. Яго надрукавалі ў газеце, а Алеся адпусцілі.

Усё жыццё паэта было пакутнае. Куды б ні закідваў яго лёс, ён цяжка працаваў фізічна. Гэта адбілася ў вершах і перапісцы з сябрамі. Частка эпісталярнай спадчыны паэта знаходзіцца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва. Гэта 43 лісты, якія ў 1992 годзе перадаў на захаванне Масей Сяднёў. Найбольш цікавыя з іх зачытала на вечарыне дырэктар архіва Ганна Запартыка.

Высокую ацэнку творчасці Алеся Салаўя даў у сваім выступленні Пятро Васючэнка. Пра лёс паэта на эміграцыі гаварыў пісьменнік Яўген Лецка. На вечарыне гучала музыка і песні. Студэнтка Мінскага універсітэта культуры Таццяна Пучкоўская выканала на цымбалах тужлівую мелодыю Жыновіча і паланез Агінскага. Прачула праспявала песню-баладу Наталля Матыліцкая. А вядомы не толькі на Беларусі паэт, бард, кампазітар Алег Атаманаў да 75-х угодкаў таленавітага нашага земляка напісаў два рамансы на вершы Салаўя — "Майму каханню", "Толькі там, дзе Айчыны бальзам". Акрамя гэтых рамансаў, ён выканаў адну сваю песню пра маці, а таксама песню пра сіраціначку, якую некалі на беларускую мову пераклаў Алесь Салавей. І, безумоўна, праз усю вечарыну чыталіся вершы, якія падрыхтаваў артыст Вячаслаў Галуза.

Вялікую цікавасць выклікала сціплая фотавыстава з прыватных збораў Лідзіі Савік і Міхася Скоблы, на якой можна было пабачыць паэта, ягоную сям'ю і апошні прытулак на Мельбурнскіх могілках у Аўстраліі.

Гэтая вечарына — сведчанне пашаны да сваіх талентаў, працяг працэсу вяртання на Радзіму, які пачаўся чатыры гады таму. За гэты час шмат вершаў Алеся Салаўя друкавалася ў перыёдыцы. Імя паэта значылася ў школьных праграмах. У выдавецтве "Мастацкая літаратура" была падрыхтавана да друку кніга паэзіі. Будзем жыць і спадзявацца, што ў хуткім часе яна пабачыць свет, і паэтычная спадчына Алеся Салаўя ўвойдзе ў залатую скарбніцу беларускай літаратуры.

**Ірына ЛЯКСЕЕВА.**

# ЖЫВУ І ДЫХАЮ, МОЙ КРАЙ, ТАБОЙ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Самуілу Маршаку, які параіў юнаму паэту пісаць на роднай мове, і гэтай мудрай парады Альфрэд прытрымліваўся пазней усё жыццё. Раннія вершы Альфрэда Радзюка — гэта захапленне родным краем, прыгажосцю беларускай прыроды, тымі крыніцамі, якія натхнялі яго талент.

**Туды, дзе поле шэпча збажыной,**
**дзе рэчкі хуткая вада цячэ, бруіцца,**
**іду, спатканы ранішняй красой,**
**халоднае вады з крыніцы каб напіцца.**

**То скарб я п'ю дабрадзейкі-зямлі,**
**дзе нівы, і сады, і рэкі — ўсё жывое...**
**Мае тут прадзеды й бацькі жылі,**
**мне ўсё тут блізкае, усё тут дарагое!**

Вершы 15-гадовага паэта, напоўненыя



пачуццямі нязгаснай любові і прыхільнасці да родных мясцін ("На сенажаці", "Шылава гара", "Ты", "Малітвы небу", "Ці ж ня новае шчасьце мне зьнічыць", "Радзіма", "Вуса" і многія іншыя), пачалі публікавацца ў рэспубліканскіх газетах і часопісах ("Полымя рэвалюцыі", "ЛіМ", "Чырвоная змена", "Піянер Беларусі", "Звязда"). Але не знічыла яму новае шчасце. Ішоў 1937 год — трагічны не толькі для сям'і Радзюкоў, але і для многіх шчырых і сумленных беларусаў. Адною ноччу на вачах у дзяцей (іх у сям'і было чацвёра, Альфрэд — старэйшы) былі невядома за што арыштаваны бацька і маці, якіх Альфрэд больш ніколі не пабачыў (бацька загінуў у сібірскім ГУЛАГу, маці, адседзеўшы 10 гадоў, вярнулася ў 1947 годзе, але хутка памерла і пахавана на могілках в. Вязань, каля Фаніпаля). Дзеці раптоўна асірацелі, застаўшыся без усялякіх сродкаў, нават блізкія баяліся адкрыта дапамагаць нашчадкам "ворагаў народа". Альфрэд вымушаны быў шукаць нейкіх заробкаў, цяжка працаваў на разгрузцы вагонаў на станцыі Койданава, на торфараспрацоўках і вывазцы лесу. Але не губляў надзеі вучыцца далей і ў 1938 годзе паступіў у Мінскі педтэхнікум, дзе змог працягнуць толькі два гады. Па ўспамінах журналіста Барыса Сасноўскага, пісьменнікаў Міколы Аўрамчыка, Аркадзя Марціновіча, якія вучыліся разам з ім, Альфрэду Радзюку проста не было на што жыць, ён быў адным з самых бедных студэнтаў у тэхнікуме, дапамогі не было ніякай, добра, што меншых братоў і сястру прытулілі сваякі. І зноў ён вымушаны быў шукаць працы, каб выжыць і падтрымаць малодшых. З дапамогай Б. Сасноўскага ён уладкоўваецца ў рэдакцыю лагойскай раённай газеты, дзе і працаваў да пачатку вайны. Але, нягледзячы на цяжкія ўмовы, не пераставаў пісаць вершы, у іх ён спатольваў свае душэўныя перажыванні. Гэта было адзінае, што выратоўвала яго ад цяжкага, пакутлівага існавання. У перадваенны перыяд ён шмат чытаў з класічнай сусветнай і рускай літаратуры, захапляўся творчасцю Я. Купалы і М. Багдановіча, пачаў асвойваць класічныя формы верша: санеты, актавы, трыялеты, рандо — тое, што знаходзіў у М. Багдановіча, у яго выдатнай паэзіі. Аднак бясконцыя матэрыяльныя нястачы, цяжкае сірочае існаванне аддалялі яго ад кола сяброў, ён адчуваў нейкую адзіноту, неўладкаванасць, бесперспектыўнасць жыцця. І нездарма ў цудоўныя майскія дні (свята яго нараджэння) юнака апаноўваюць тужлівыя пачуцці.

**Ну вось — і нарадзінаў маіх дзень.**
**Мне дзевятнаццаць споўнілася сяньня.**
**Адзін. Няма сяброў. Альховы сьцень**
**Цяпер са мной, і ты са мною, Гайна! —**

пісаў ён у цудоўным санеце "Гайна" (1.5.1941), знаходзячыся ў Лагойску, і толькі на прыродзе, на берагах Гайны адчуваў сябе раскаваным і вольным. Такое светаадчуванне сфарміравалася ў Альфрэда Радзюка з гадоў сіроцтва, калі на сваёй радзіме ён, таленавіты, высокаадораны чалавек, аказаўся кінутым на волю лёсу, нікому непатрэбным.

З пачаткам вайны ён пераязджае ў Мінск, пры дапамозе Уладзіміра Дудзіцкага, беларускага паэта, які ў 30-я гады быў таксама рэпрэсіраваны, уладкоўваецца ў рэдакцыю "Беларускай газеты", дзе працавала і Наталля Арсеннева, напярэдадні вайны вернутая з казахстанскай ссылкі разам з двума сынамі. (Альфрэд Радзюк на фронт не быў мабілізаваны з прычыны дрэннага зроку).

На старонках "Беларускай газеты" пачалі друкавацца многія матэрыялы з беларускай гісторыі. Тут упершыню Альфрэд прачытаў "Кароткі нарыс гісторыі, Беларусі" У. Ігнатоўскага (яму, дарэчы вельмі спадабалася слова — Крыўя з лексікона гісторыка, і пазней ён часта ўжываў яго ў вершах), упершыню адкрываў для сябе гісторыю Бацькаўшчыны, спасцігаў прыгажосць роднай мовы, пра якую пазней сказаў:

**Я толькі з ёй пайшоў у сьвет.**
**Апроч яе — усё забралі...**

У "Беларускай газеце", "Голасе вёскі" пачалі друкавацца новыя вершы Альфрэда Радзюка, і ў 1942 годзе ўпершыню ён стаў падпісвацца псеўданімам "Алесь Салавей". Той жа цяжкі галодны і халодны лёс выганяе Алеся Салаўя з ваеннага Мінска спачатку ў мястэчка Ілля, а пазней у Рыгу, дзе выходзіў беларускі часопіс "Новы шлях", рэдактарам якога быў Уладзімір Сядура (Глыбінны), вядомы беларускі крытык і празаік. Алесь Салавей стаў намеснікам рэдактара, шмат пісаў. У Рызе існавала невялікае беларускае зямляцтва. Паэт пазнаёміўся з К. Езавітавым, мастаком П. Мірановічам (прысвяціў яму верш "Мастак"), беларускім паэтам П. Саколам, які жыў у Латвіі, з многімі рускімі паэтамі. У Рызе выйшаў першы паэтычны зборнік Алеся Салаўя "Мае песьні", які меў падзагаловак "Зборнік лірыкі думкі". Лірыкай думкі прасякнуты вершы паэта — прыродаапісальныя, кахання, нацыянальна-патрыятычныя. Першая яго вялікая паэма "На хуткіх крыллях вольнага Пэгаса", напісаная санетнай страфою, дзе былі кранальныя радкі.

**Для вас, сябры мае і аднагодкі,**
**Народзе мой, крывіцкі мой абшар,**
**Нашчадкі прышлага, былога продкі,**
**Я прысьвячаю слоў сардэчных дар...**

**Заўжды — пакуль пачуцці**
**не зьнямелі —**
**Жыву і дыхаю, мой Край, табой...**

У 1944 годзе ён назаўсёды пакінуў свой край, пайшоў, як і многія беларусы, што жылі пад акупацыяй, у выгнанне. Апынуўся спачатку ў Беластоку, дзе адбылося знаёмства з Х. Ільяшэвічам, М. Сяднёвым, потым у Берліне, у Празе сустракаўся з Ларысай Геніюш і некалькі гадоў жыў у лагеры перамешчаных асобаў у Зальцбургу (Аўстрыя). Цяжка перажываў расстанне з радзімай, з роднымі людзьмі. Душа пакутавала ад супярэчлівых настрояў, думак, якія выліваліся ў балючыя радкі вершаў:

**Чаму так цяжка, цяжка мне!..**
**Няўжо і я, як іншыя, халодны труп!**
**Няўжо ня вырвацца мне з тагасветных**
**путаў!..**

Гучаць роспачныя матывы выгнання:

**Сярод чужых быць — сьмерць**
**нямая...**
**Я ня жыву, няма мяне,**
**Калі я блізкага ня маю...**

Супярэчлівыя думкі, пачуцці разрываюць сэрца ("Ад пекла хачу супачыць,//да раю — дарога цяжкая...").

І паэт вырашае:

**Паеду, памчуся ў свой край —**
**Ніхто так, як ён, ня прытуліць.**
**Скарыся, шляхоў далячынь!**

Але ўнутраны голас яму пярэчыў:

**— Нязваныя, — чую я, — госьці**
**у доме тваім. Супачын**
**рыхтуюць табе... на пагосьце.**

**— Ня едзь, — мне скуголяць вятры.**
**— Сабакам і сукіным сынам**
**Назваў цябе дом твой...**

Трэба было змірыцца з думкай, што непатрэбны ён свайму дому, і ў вершах застаецца толькі сцішаная канстатацыя таго, што адбылося, што трэба прыняць і жыць далей.

Паэт быў яшчэ зусім малады, і жыццё брала сваё. У Зальцбургу ён ажаніўся з Зінаідай Кадняк, з якой пазнаёміўся ў Берліне. У 1946 годзе нарадзіўся першы сын Міхась, а ў 1947 — дачка Ганна, пазней, ужо ў Аўстраліі, — сын Юрась. Матэрыяльна жылося цяжка, але да гэтага яму было не прывыкаць. Цяжэй было духоўна: адарваны ад радзімы, ад беларускіх асяродкаў у Нямеччыне, дзе знаходзілася большасць землякоў-выгнаннікаў, сярод якіх блізкія па духу пісьменнікі Н. Арсеннева, М. Сяднёў, Х. Ільяшэвіч, Ю. Віцьбіч і многія іншыя. Але па-ранейшаму знаходзіў паратунак у вершах, задумаў напісаць раман "Пад нагамі гарыць зямля" — пра падзеі на Беларусі ад Кастрычніцкай рэвалюцыі да другой сусветнай вайны і ў вайну. Другая частка — жыццё на чужыне. Збіраў матэрыял, нягледзячы на тое, што даводзілася цяжка фізічна працаваць, каб утрымліваць сям'ю, думаць аб хлебе надзённым.

У Зальцбургу, у лагерах дэпартаваных, жылі пераважна ўкраінцы. І Алесь Салавей, засвоіўшы ўкраінскую мову, часта выступаў з вершамі, пасябраваў з украінскімі паэтамі Аляксандравым і Кучурыўскім, займаўся таксама і перакладамі. Але найперш зальцбургскі перыяд незвычайна плённы ў паэтычных адносінах. Алесь Салавей працягваў пісаць вершы кананічнай (класічнай) формы, якія надзвычай добра ў яго атрымліваліся: санеты, тэрцыны, трыялеты, александрыны, актавы. Пісаў вершы-мініяцюры, першыя з якіх — "Вянкі" — з'явіліся ў друку ў 1948 годзе, як і паэма "Домік у Менску", пачатая яшчэ ў 1944 годзе. У Зальцбургу была напісана і другая паэма Алеся Салаўя "Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі", прысвечаная Юрку Віцьбічу, а таксама паэма "Сын" (надрукаваныя ў 1949). "Сын" — гэта патрыятычнае дачыненне сына айчыны і яго роднага краю — так паэт вызначыў сваю духоўную біяграфію ў гэтым высокамастацкім, пранікнёным творы. У Зальцбургу выйшаў другі зборнік паэзіі Алеся Салаўя "Сіла гневу" (1948), дзе сабраны вершы цэлага дзесяцігоддзя (выданне часопіса "Сакавік"). Гэта быў апошні зборнік, выдадзены пры жыцці паэта. У ім шмат вершаў, прысвечаных радзіме, якую паэт заўсёды нёс у сэрцы:

**О, дарагая зямля! Хоць у мроях**
**вырвуся я да цябе, да сваіх...**

**Ты мне за ўсё найдаражэй,**
**О, край садоў, палотнаў белых!..**

**Няма нідзе**
**блакітных васількоў —**
**такіх, што ў нас — няма нідзе...**
**А беларуская вясна!**
**Я не знайшоў нідзе ёй роўных!**
**Лясы. Узгоркі. Паплавы.**
**Блакіт нябёсаў. Сінь вазёраў...**
**Далёка вы, далёка вы,**
**Радзімы блізкія прасторы.**

Цяпер удалечыні ад Бацькаўшчыны паэт забываў пра перажытае ў юнацтве, памятаў толькі добрае, што дала яму радзіма.

**Крывіч радзімаю назоў мне дан!**
**Я рад, я ганаруся гэтым званьнем,**
**Усім сабой людству свайму аддан.**
**Такім я быў і буду да сканањня...**

* * *

**Багатае Крыўі матуля-зямля**
**мяне, чым магла, надарыла;**
**дала мне і голас, і ўзьлёт салаўя,**
**дала мне Пэгасавы крылы...**

У сваіх зборніках "Мае песьні" і "Сіла гневу" Алесь Салавей шмат вершаў прысвяціў беларускай гісторыі, славутым беларусам: Усяславу Чарадзею, Скарыне, Буднаму, Цяпінскаму, М. Багдановічу, уславіў мясціны, дзе яму давялося жыць ці пабываць (Менск, Вільня, Маладзечна, Лагойск, Койданава), апяваў красу беларускай прыроды і заўсёды выказваў гарачую любоў і вернасць

Бацькаўшчыне, свайму народу

У Зальцбургу Алесь Салавей аддаваў шмат часу выданню часопісаў "З беларускага жыцьця", "Пагоня", вёў вялікую перапіску з беларусамі ў Нямеччыне. Асабліва цікавыя яго лісты да Масея Сяднёва, у якіх ён выказваў свае літаратурныя погляды і захапленні, расказваў пра перажытае на Бацькаўшчыне і на выгнанніцкіх шляхах, раскрываў сябру-паэту сваю душу. Алесь Салавей вельмі хацеў выехаць на сталае пражыванне ў Амерыку, куды пераехалі ў канцы 40-х гадоў большасць беларускіх эмігрантаў. Але не ажыццявілася гэтае яго жаданне. Давялося ехаць у далёкую Аўстралію і там уладкоўваць побыт сям'і. Мала пісаў ён там вершаў: жыццё на чужыне было нялёгкім. Пакуль адбылі абавязковы двухгадовы кантракт, пераехалі з Адэлаіды ў Мельбурн, пабудавалі дом. Ішлі гады. Быў час, што з-пад пяра паэта не выходзіла ніводнага верша. Але ён сачыў, чым і як жыла далёкая бацькаўшчына, перапісваўся з Ларысай Геніюш, якая вярнулася з ГУЛАГа пасля смерці Сталіна. Жыла ў Зэльве, пасылала ў Аўстралію кнігі беларускіх пісьменнікаў. У лістах да паэткі Алесь Салавей выказваў захапленне творамі В. Быкава, У. Караткевіча, Н. Гілевіча, асабліва яго санетамі (Н. Гілевіч "Перазовы"), бо сам быў адным з першых беларускіх паэтаў, які напісаў вянкі санетаў. Скардзіўся Ларысе Геніюш, што ўдалечылі ад радзімы згасае яго паэтычнае натхненне, не пішуцца вершы.

У 1952 годзе, ужо жывучы ў Мельбурне, Алесь Салавей скончыў укладанне двух новых сваіх зборнікаў "Вянкі" і "Несьмяротнасьць", пачатае ў Зальцбургу. Яны павінны былі выйсці пад адзіным загалоўкам "Нятускная краса". Але выйшаў гэты збор твораў Алеся Салаўя ўжо пасля яго смерці клопатамі Антона Адамовіча і Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Йорку.

Усё жыццё марыў паэт вярнуцца на Бацькаўшчыну. І вярнуўся — сваімі творамі. Хто не памятае яго цудоўных вершаў, прысвечаных дзецям, якія ўваходзілі ў дзіцячыя чытанкі.

**Голасам моцным**
**Ціха і важна**
**Гром пракаціўся ўгары.**
**Луг адазваўся грому**
**працяжна,**
**Лес адгукнуўся стары...**

І чыю беларускую душу не крануць яго радкі, напоўненыя шчырымі пачуццямі любові, веры і адданасці Бацькаўшчыне.

Паэт свята верыў:

**Як сымбаль вечнага жыцьця,**
**заззяе**
**Над Крыўяй вольнай**
**светланосны зьніч.**
**...І без чужое ласкі — сам**
**крывіч**
**Гаспадаром здалее быць**
**над краем.**

**Узьняўшы бел-чырвона-белы**
**сьцяг,**
**ён з войскам собскім,**
**дружным**
**і адзіным,**
**на варту стане любае айчыны.**
**І сьціхамірыцца Маскаль і Лях,**
**і не кране нас ліхадзей**
**злачынны...**

Не далятаюць да магілы паэта салаўі з далёкай Беларусі, але сняцца яму сны аб любай Бацькаўшчыне, якая, нягледзячы ні на што, памятае свайго таленавітага сына, які з поўным правам можа сёння сказаць: "О, мая Беларусь! Я з Табой, я — шчаслівы!"

**Лідзія САВІК.**

*ПОЗІРК У МІНУЛАЕ*

# НА ДОСВІТКУ ВЯСНЫ НАРОДНАГА АБУДЖЭННЯ, альбо ЯКУБ КОЛАС У ВІЛЬНІ

*Зноў узнімаецца сонейка*
*вышай і свет абуджае,*
*Весела нішчыць усё, што зіма*
*збудавала.*
**К. ДАНЕЛАЙЦІС.**

*О, Вільня, крывіцкая Мэкка!*
*О, места — усё цуд, хараство!*
**У. ЖЫЛКА.**

Старадаўняя Вільня!

Каго з краёвых патрыётаў не зачароўвала яна сваімі дзеямі-гісторыяй, каго не натхняла высакароднымі ўчынкамі на спаўненне ідэалаў гуманізму — дэмакратызму і вольнасці?

Ці ж можна пры гэтым не памятаць учынкаў дзеля выратавання Айчыны Якуба Ясінскага, Міхала Клеафаса Агінскага, братоў Ксаверыя і Яна Зяньковічаў, Стэфана Грабоўскага, а ўслед — філаматаў Адама Міцкевіча і Яна Чачота, паўстанцаў Кастуся Каліноўскага і Зыгмунта Серакоўскага, Францішка Багушэвіча — першага будзіцеля простага люду Мацея Бурачка, у чыіх вершаваных творах выявіліся мукі і гора народнае. Іх заўжды патрэбна памятаць...

Пачатак XX стагоддзя... Ішла руска-японская вайна 1904—1905 гадоў за панаванне на Далёкім Усходзе, за падзел паўфеадальнага і паўкаланіяльнага Кітая. Паражэнне ў ёй спрыяла абуджэнню народа, штурхала дамагацца вольнага стваральнага жыцця без войнаў і каланіяльнага здзеку. Першы год рэвалюцыі адбіўся на агульным накірунку беларускага руху. Яго хвалі дакаціліся ў многія мядзведжыя куткі Гродзеншчыны, Віленшчыны, Міншчыны, Палесся... У студзені 1906 года ў Мінску склікаецца II з'езд Беларускай Сацыялістычнай Грамады, які займаецца распрацоўкай праграмы дзеяння, дастасаванай да мясцовых умоваў, шукаючы адначасова падтрымкі ў суседніх братніх народаў — Літвы, Украіны, Латвіі, застаючыся пакуль што ў межах супольнага дзяржаўнага арганізма. Галоўным цэнтрам усяго беларускага руху па-ранейшаму была Вільня — калыска актыўных культурных і партыйных сілаў краю.

Тут, у Вільні, патаемна ў "салі пры літоўскім касцёле св. Мікалая, гасцінна дадзенай на гэта літвінамі, — сведчыць адзін з лідэраў БСГ Антон Луцкевіч у сваёй кнізе "Адбітае жыццё", — адбыўся Першы беларускі настаўніцкі з'езд, скліканы Грамадой". Гэта было ўлетку 1906 года". Цікава, што ў ім прыняў удзел настаўнік з Мікалаеўшчыны Кастусь Міцкевіч. "Следам за гэтым **ён арганізуе з сваіх мікалаеўскіх сяброў патайны "Беларускі Саюз Народных Вучыцялёў", які ў сваёй праграме ясна паставіў дамаганне беларускае народнае школы.** Але арганізацыі не пашэнціла, яна была выкрыта паліцыяй, і Міцкевіч разам з некалькімі другімі сябрамі арганізацыі быў асуджаны менскім акружным судом на тры гады крэпасці ды кару адбыў у менскім вастрозе".

Што ж уяўляла сабой Мікалаеўшчына ў мінулым? На гэта пытанне вядомы дзеяч беларускага Адраджэння таксама дае адказ: "Вёска... славілася з даўніх часоў тым, што імя сваё атрымала ад імя князя Мікалая Радзівіла, ведамага ў XVI сталецці на ўсю Беларусь і Літву прыхільніка Рэфармацыі, па загаду якога ў закладзенай у Нясвіжы Кавэчынскім друкарні друкаваліся беларускія кніжкі, у тым ліку кальвінскі катахізм 1562 году. Але і ў найнавейшыя часы Мікалаеўшчына была шырака вядома навакол дзеля таго, што з яе вельмі многа моладзі йшло на народных настаўнікаў, і да вайны больш за 30 мікалаеўцаў прайшлі навукі ў Нясвіжскай вучыцельскай сэмінарыі. За імі следам пайшоў і малады Костусь Міцкевіч. Хоць і суровыя парадкі панавалі ў Нясвіжы, дзе беларускую моладзь узгадоўвалі ў чорнасоценна-абрусіцельным духу, — аднак грамадка мікалаеўцаў ня надта паддавалася сваім кіраўнікам: у іх цвёрда дзяржалася свядомасць, што яны — беларусы, сыны сярмяжнага народу, што яны павінны захаваць жывую сувязь з роднай вёскай і сваімі братамі, якія працуюць на раллі, — а першым крокам у гэтым кірунку з'яўляецца родная мова, якой яны змалку лет гаварылі ў роднай хаце. Дык, захапліваючыся красой багатай расейскай літэратуры, з якой іх знаёмілі, хоць і даволі аднабакова, у сэмінарыі, мікалаеўцы не выракаліся беларушчыны і нават у часе бытнасці ў сэмінарыі пробавалі на сваіх вечарынах дэклямаваць беларускія вершы, якія перапісваліся і перахоўваліся больш свядомымі спасярод сэмінарыстаў. Да ліку апошніх належаў і Міцкевіч, які з 12 гадоў пробаваў і сам пісаць вершы — праўда, спачатку па-расейску".

Удзельнікі Мікалаеўшчынскага з'езда ў ноч з 9 на 10 ліпеня 1906 года былі выкрыты царскай паліцыяй, таму ўсе засталіся звольненымі з настаўніцкіх пасадаў. Пачалося следства.

* * *

У гэты смутны і трывожны час настаўнік Кастусь Міцкевіч, вядомы чытачам першага легальнага тыднёвіка на беларускай мове "Наша доля" як паэт Якуб Колас, атрымлівае запрашэнне з Вільні прыехаць на працу ў рэдакцыю. Яму было прыемна, што яго запрашаюць на працу ў рэдакцыю беларускай газеты "Наша ніва". Пра такі знамянальны факт народны пясняр у мастацкай інтэрпрэтацыі на старонках другой часткі кнігі "На крыжовых дарогах" перадае, што тады "рэдакцыя здавалася яму... самаю высокаю і самаю разумнай установай у свеце, дзе сядзяць самыя разумныя людзі. А важней за ўсё — у пісьме быў намёк, што яго пашлюць для навукі ва універсітэт, а гэта была даўняя мара..."




І вось беспрацоўны настаўнік у дарозе. У цягніку, прымасціўшыся на лаўцы каля акна, з захапленнем узіраецца ў прыдарожныя краявіды. Ехаў усю ноч, калі пачало днець, пад'язджаў да Вільні.

З вакзала пакрочыў да сімвалічных варотаў старадаўняй сталіцы — Вострай Брамы. Тут пачціва затрымліваюцца важныя чыноўнікі і просты сярмяжны люд. Паэт да ўсяго ўважліва прыглядаўся і прыслухоўваўся. Не маглі не ўразіць яго прачулыя словы беларускай малітвы:

**О, Маці Божая, што ў слаўнай**
**Вострай Браме,**
**Як зорка ясная, нам свеціш**
**заўсягды...**
**К Табе мы, грэшны,**
**бяздольныя ўсклікаем.**
**Ратунку, помачы Тваёй усё**
**чакаем.**
**Пачуй наш плач на гэтым слёз**
**падоле,**
**Са злом ў змаганні агульным**
**памажы.**
**Хай згіне ўжо граху, пагард**
**няволя,**
**Ты сцежку міласці усім нам**
**пакажы...**
**Не выпушчай нас з Матчынай**
**апекі**
**Сваёй цяпер, заўсёды і навекі.**
**К Табе, Заступніца, мы ўздых**
**свой у пакоры**
**Шлём: барані Ты нас**
**ў народным цяжкім горы...**

Пілігрым з Мікалаеўшчыны, не спяшаючыся, трапляў у глухія завулкі, якіх тут было багата. Даводзілася заходзіць у тупікі, затым зноў вяртацца назад, каб выбрацца на працейшы шлях і крочыць далей. А ў вочы кідаліся ўсё новыя бажніцы, кляштары са скульптурамі святых. Выйшаўшы на Завальную вуліцу, з хваляваннем пераступіў парог дома, дзе размяшчалася рэдакцыя газеты "Наша ніва".

Прыезду Якуба Коласа тут былі рады. Ён — таксама, што зноў апынуўся сярод тых, хто быў душой беларускага Адраджэння. Гэта найперш браты Іван і Антон Луцкевічы, афіцыйны рэдактар Аляксандр Уласаў. Аднак паколькі паэт быў пад наглядам паліцыі, яму доўга затрымлівацца ў Вільні не давялося. Прыйшлося неўзабаве вяртацца дахаты. І творча працаваць. Але Вільня цягнула да сябе. І ён на будучы год вясною, у траўні, зноў прыехаў. Яму хацелася звярнуцца праз газету да сваіх калег, якія пацярпелі за свабоду. Верш так і назваў — "Сябрам". У ім ён пытаецца ў іх, ці захавалі яны "свае сілы", веру, "думкі маладыя":

**Тыя думкі, тыя мыслі,**
**Што душу нам хвалявалі,**
**З-за каторых хмары звіслі...**

Паэта моцна непакоіць, што іх адарвалі ад духоўнай дзялянкі — "народнай ціхай нівы" і "разагналі па ўсім свеце". Некаторыя здольныя педагогі апынуліся нават у Амерыцы. Да тых, хто затрымаўся на родных гонях, звяртаецца, імкнучыся ўзняць настрой. Раз-пораз, хаця і самому сумна на душы, пытаецца:

**Ці збяромся зноў калі мы**
**Ў нашым бедным родным**
**краі,**
**Як бы птушкі пасля зімы!**
**Дзе вы, хлопцы! Я гукаю!**

Ён запэўнівае сваіх сяброў у слушнасці здзейсненых учынкаў. І цяпер, калі на дварэ вясна, просіць не сумнявацца:

**Быць не можа,**
**Каб не грэла цёпла сонца.**
**Наша праўда нам паможа —**
**Блісне нам святло ў аконца!**

За рэдакцыйным сталом літаратурнага аддзела Якуб Колас з цікавасцю знаёміцца з рукапісамі вершаў Янкі Купалы, дасланымі ім у "Нашу ніву". Па-ранейшаму не пакідаюць яго мары аб вандроўцы ў Прагу на універсітэцкія студыі. Аднак нечакана ў чэрвені адбыўся паліцэйскі вобыск. Вынік? Канфіскаваны рэвалюцыйныя вершы. Атрымаў загад пакінуць Вільню.

Наступны раз Вільню наведаў у верасні, але ўжо з афіцыйным дазволам на права жыхарства ў горадзе. Пачаў працаваць у рэдакцыі. Знаёміўся з жыццём горада. І хаця яму забаранялася яго пакідаць, згадзіўся на прапанову знаёмай каляжанкі Аляксандры Зотавай зрабіць вандроўку ў час калядных вакацыяў у Пецярбург. Са славутасцямі расійскай сталіцы знаёміўся на працягу чатырох дзён, слухаў оперу "Русалка" ў Народным доме.

Пасля падарожжа ў Пецярбург у памяці застаўся першы вечар у Вільні, дзялілася сваімі ўспамінамі спадарожніца паэта на старонках часопіса "Беларускі летапіс". "У нас быў госць русак Е. Між ім і Коласам пачаўся спор. Е. нападаў на беларускую мову і ўсю "затею" з Беларуссю. Колас, зморані з дарогі, ціхі і сумны, вельмі слаба бараніўся. Атрымалася прыкрае ўражанне. Запанавала цішыня. Колас тады падсеў да раяля, пачаў наігрываць двума пальцамі. Пасля запяяў адну сваю песню, другую. І вось Е. падходзіць да Коласа, цісне яму руку, заяўляе, што ён мыляецца, што ён цяпер толькі зразумеў і глыбока адчуў красу беларускай мовы, яе значэнне і неабходнасць".

Зрабіўшы пэўныя ўступкі дэмакратычным сілам, самадзяржаўнае кола Расійскай імперыі па-ранейшаму хваравіта круцілася, буксавала, не выяўляючы здольнасцяў для больш рашучых пераменаў у сацыяльна-эканамічным і нацыянальным развіцці грамадства ўскраін. І ўсё ж парасткі новага мыслення ў маёмасных слаях паволі прарасталі. Пра гэта засведчыў зварот зямельнага абшарніка Канстанціна Гардзялкоўскага ў рэдакцыю "Нашай нівы" з просьбай парэкамендаваць настаўніка, які змог бы выкладаць у школе па-беларуску. Так паволі спела разуменне, што народу патрэбна асвета на роднай мове, больш даступная, чым закасцянелая казённая царкоўнапрыходскай школы.

На просьбу адразу ж адклікнуўся Якуб Колас і на пачатку 1908 года адправіўся ў Магілёўскую вобласць, у маёнтак Габрылёва-Папоўка, у вёску Сані на Аршаншчыне, каб працаваць у прыватнай беларускай школе.

* * *

З Вільняй Якуб Колас сувязяў не парываў нават тады, калі быў асуджаны Мінскім акруговым судом на тры гады зняволення, якія адбываў у Пішчалінскім замку, дзе давялося нямала сербануць гора. Абмежаваныя наведванні дазваляліся. Праз іх прыходзілася падтрымліваць сувязі з навакольным светам.

Але туды — у Вільню пасля вызвалення ён адправіўся адразу. "Ехаў не з пустымі рукамі. Вёз тры сшыткі ў цыратовых вокладках. І ўсё з вершамі". Пра гэта засведчыў Максім Лужанін у сваёй кнізе "Колас расказвае пра сябе".

* * *

Вільня абрадавала паэта зборнічкам вершаў "Песні-жальбы", які ўбачыў свет у 1910 годзе. У невялікай вершаванай прадмове да чытача ён прасіў прабачыць яму:

**Не пытайце, не прасіце**
**Светлых песень у мяне,**
**Бо як песню запяваю,**
**Жаль ўсю душу скалыхне...**

**Нешчаслівa наша доля:**
**Нам нічога не дала.**
**Не шукайце кветак ў полі,**
**Як вясна к нам не прыйшла!**

З Вільняй звязвалі Якуба Коласа і сардэчныя стасункі. Яшчэ да зняволення ён пазнаёміўся з настаўніцай пінскай чыгуначнай школы Марыяй Каменскай, бацькі якой жылі ў прыгарадзе Вільні. На пачатку чэрвеня 1913 года маладыя пажаніліся і зарэгістравалі свой шлюб у Пінску. Вясельнае падарожжа зрабілі да Вільні. Гасцілі ў яе родных і сваякоў. Тут жа адбылася сустрэча і з Янкам Купалам, які ў той час працаваў у рэдакцыі газеты "Наша ніва"

* * *

Старадаўняя Вільня! Яна знамянальная тым, што на досвітку народнага абуджэння далучыла Якуба Коласа і ўсіх нашаніўцаў да нацыянальнага руху, працы на карысць Бацькаўшчыны. "Наша ніва" — "святое гэта месца — бо яно родзіць зярняты прасветы для ўсяго Беларускага Народу", — з глыбокай пашанай, усведамленнем справядлівасці і адказнасці гаварыў нашанівец Змітрок Бядуля. Тут гартаваліся "байцы за ідэю", сцвярджаў ён.

Паэтычныя радкі Якуба Коласа падказваюць нам, што не варта спяшацца, калі мы хочам пазнаць гісторыю Вільні, хараство наваколля:

**Налева, між гор крутабокіх,**
**У берагах сваіх высокіх,**
**Па камянях, бы тая змейка,**
**Вілася шумная Вілейка**
**І, закруціўшыся дугою,**
**Знікала зараз за гарою.**
**А справа ўніз свабодным**
**махам**
**Лягла другая рэчка шляхам,**
**Як бы сталёвая пружына;**
**То Вілія, Літвы дзяціна,**
**Няслася пышна між абрываў**
**Бліскучай стужкай гожых**
**зіваў.**

Так, Вільня прамаўляе да нас ціхім голасам гісторыі, бо гаворыць аб справах простых і вялікіх.

**Леў МІРАЧЫЦКІ.**

**НА ЗДЫМКУ: Вільня. Вострая Брама. Паводле гравюры М. Купавы.**

# АБ РЭСТЫТУЦЫІ КУЛЬТУРНЫХ КАШТОЎНАСЦЕЙ

Адбылося чарговае пасяджэнне грамадскай камісіі "Вяртанне" пры Беларускім фондзе культуры, на якім нарэшце абмяркоўвалі ўжо больш года чакаемае пытанне "Аб арганізацыі і правядзенні ў Мінску міжнароднай канферэнцыі пад назвай "Рэстытуцыя культурных каштоўнасцей: праблемы іх вяртання і сумеснага выкарыстання; юрыдычныя, навуковыя і маральныя аспекты".

Справа ў тым, што 20 000 долараў ЮНЕСКА выдзеліла на канферэнцыю і 5 000 на камп'ютэрнае абсталяванне яшчэ ў канцы 1995 года, але пералічыла іх на рахунак Беларускага пасольства ў Парыжы. Там гэтыя грошы круціліся да траўня бягучага года. У выніку тэрмін правядзення канферэнцыі адкладваўся аж тры разы.

У канферэнцыі прымуць удзел замежныя спецыялісты, у тым ліку з Германіі і Украіны, з Польшчы і Літвы, Латвіі і Расіі.

Акрамя таго, у рабоце канферэнцыі прымуць удзел прадстаўнікі ІКАМОСа (Інтэрнацыянальнага камітэта па ахове спадчыны, ЮНЕСКА, ІКОМа (Інтэрнацыянальнага камітэта па музейнай справе) і, канешне ж, спецыялісты з Беларусі.

Сябры камісіі "Вяртанне" ўскладаюць вялікія надзеі на практычную выніковасць канферэнцыі. Вядома, што большасць краін не хочуць вяртаць каштоўнасці, якія трапілі да іх. Вяртанне каштоўнасцей уздымае шмат юрыдычных праблем, навуковых і маральных.

Беларускія спецыялісты вырашылі прапанаваць кампрамісную на даны гістарычны момант форму навуковага спажывання спрэчных каштоўнасцей. Маецца на ўвазе іх сумеснае выкарыстанне, пад якім разумеецца сумеснае правядзенне выстаў, сумеснае выданне каталогаў, свабодны ўзаемны доступ да архіўных матэрыялаў па праблеме. Па-першае, гэта дасць магчымасць увесці ў навуковы ўжытак страчаныя каштоўнасці і пашырыць веды пра іх ужо сёння. Па-другое, сумеснае выкарыстанне каштоўнасцей стане першай прыступкай да іх фізічнага вяртання былым уласнікам.

Нягледзячы на цяжкасці ў галіне фізічнага вяртання страчаных каштоўнасцей, ёсць тут і пэўныя зрухі. Урад Украіны вярнуў Беларусі чатыры абразы XVII—XVIII стагоддзяў, вывезеныя калісьці з Пінска; Расія вярнула нам 100 асобнікаў кніг XVIII—XIX стагоддзяў, якія ў розныя часы былі вывезены з розных беларускіх бібліятэк.

Яшчэ адна прыемная навіна прагучала на пасяджэнні. Пасля шматгадовых захадаў камісіі "Вяртанне" і асабіста яе сябра — доктара мастацтвазнаўства Надзеі Высоцкай улады Беларусі прынялі рашэнне адкрыць у Мінску два новыя музеі: у будынку былога кінатэатра "Беларусь" — музей сучаснага мастацтва, а ў будынку ваеннай камендатуры на пл. Свабоды (гэта помнік архітэктуры XVII стагоддзя) будзе Музей старадаўняга беларускага мастацтва.

Прыемна было таксама патрымаць у руках кнігу У. Шумейкі "Собрать рассеянное", якая падае інфармацыю пра страчаныя беларускія архівы.

**Мая ЯНІЦКАЯ.**

*ПРЫРОДА*

## ЯЛІНКА

У густым, танкастволым асінніку ўбачыў шэры тоўсты пень. Яго абселі і вартавалі вывадкі апенек з рабаватымі шурпатымі капялюшыкамі. На зрэзе пня мяккаю шапкаю ляжаў вылінялы мох, упрыгожаны трыма або чатырма кусцікамі брусьнічніку. І тут жа знайшлі сабе прытулак некалькі ялінак. У іх было ўсяго па дзве-тры лапкі і дробныя, але калючыя іголкі. А на кончыках лапак паблісквалі расінкі смалы і бачыліся пупырышкі завязяў будучых лапак. Але завязі былі такія маленькія, і ялінкі такія кволыя, што ім было ўжо не пад сілу справіцца з цяжкаю барацьбой за жыццё і далей расці.

Той, хто не расце, памірае — такі закон жыцця. Гэтым ялінкам наканавана было памерці, толькі нарадзіўшыся. Тут можна было прарасці, але нельга выжыць. Я сеў каля пня пакурыць і заўважыў, што адна з ялінак прыкметна адрозніваецца ад астатніх. Яна ўпэўнена і надзейна стаяла на сярэдзіне пня. У пацямнелых іголках, у тоненькім смалістым стволіку, у радасна ўздыбленай вяршынцы адчувалася нейкая ўпэўненасць і нават быццам бы нейкі выклік.

Я засунуў пальцы пад сырую шапку імху, прыўзняў яе і ўсміхнуўся: "Вось яно ў чым справа". Гэтая ялінка ўладкавалася на гнілым пні. Яна веерам разгарнула ліпучыя ніткі карэньчыкаў, а галоўны карэньчык белым шыльцам праткнуўся ў сярэдзіну пня. Дробныя карэньчыкі смакталі вільгаць з моху, і таму ён быў такі палінялы, а цэнтравы карэньчык увінчваўся ў пень, здабываючы харчаванне.

Ялінцы доўга і цяжка будзе свідраваць пень карэньчыкам, пакуль дабярэцца да зямлі. Яшчэ некалькі гадоў яна будзе ў драўлянай кашулі пня, расці з самага сэрца таго, хто, магчыма, быў яе суродзічам і хто нават пасля сваёй смерці бярог і карміў дзіця.

І калі ад пня застанецца адна толькі парахня і сатруцца яго сляды з зямлі, там, у глыбіні, яшчэ доўга будуць прэць карэнні сваячніцы-елкі, аддаючы маладому дрэўцу апошнія сокі, зберагаючы для яго кропелькі вільгаці, саграючы ў сцюжу астатнім цёплым дыханнем мінулага жыцця.

Калі я бачу на Радаўніцу цыбатую дзяўчынку, якая ласкава прыбірае на кладах магілу сваёй бабулі і далікатна кладзе на яе кветкі, я заўсёды прыгадваю ялінку, якая расце ў лесе на пні.

**Мікола КАПЫЛОВІЧ.**

## «БРАСЛАЎСКІЯ ЗАРНІЦЫ-97»







**"Браслаўскія зарніцы-97" — пад такой назвай трыццаты раз у маляўнічым куточку Леснічоўка ў Браславе прайшло традыцыйнае свята народнай творчасці. Каля пяці тысяч гараджан і жыхароў раёна змаглі пазнаёміцца з творчасцю народных умельцаў, паглядзець тэатралізаванае прадстаўленне, выступленні танцораў, паслухаць народныя песні.**

**НА ЗДЫМКАХ: тэатралізаванае прадстаўленне; на выставе народных майстроў; сваю працу дэманструе ткачыха Вольга ХАРКОЎСКАЯ; удзельніцы танцавальнага калектыву "Акварэль".**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА.**

Рэдактар
Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 33-16-56, 213-37-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 845.
Падпісана да друку 16.6.1997 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.